

№ 6(23)
Люты 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



Заахвочванне

## Вёсцы — новыя пабудовы

Неаднойчы ўжо з высокіх трыбун гучала думка, што калі ў нас будзе як след наладжана сельская гаспадарка, то і ўсё іншае рушыць наперад.

Наладзіць сельскую гаспадарку не так і лёгка: патрэбны яе рэфармаванне, рабочыя рукі, жыллё, заробкі і г.д. Як нядаўна паведамілі з Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, цяпер перад кожнай гаспадаркай вылучана задача пабудаваць не меней пяці новых дамоў, каб у выніку атрымалася 960 тысяч квадратных метраў жылля, каб аднавілася каля дзесяці тысяч новых сядзіб, што можа прыцягнуць увагу ў першую чаргу моладзі.

Юбілеі

## Кавальскаму каледжу — 100



У Магілёве да 2002 года было ПТВ № 33 металістаў, цяпер – гэта машынабудаўнічы прафесійна-тэхнічны каледж, які летась у снежні па праве пераемнасці адзначыў стогадовы юбілей. Папярэдняя навучальная ўстанова была адчыненая на ахвяраванні багатых яўрэяў з-за мяжы як рамесніцкая вучэльня для навучання дзяцей з бедных сем'яў, сірот, – на слесараў, токараў, кавалёў і сталяроў. За стагоддзе вучэльню скончыла каля 35 тысяч юнакоў, якія сталі высокапрафесійнымі рабочымі.

Цяпер там навучаецца 450 маладых людзей і значна большай, чым раней, колькасці рабочых прафесій. Але па-ранейшаму славяцца выпускнікі-кавалі, якія твораць з металу сапраўдныя мастацкія цуды – ружы, вазы, падсвечнікі і г.д.

Цікавыя звесткі

## Беларусы ў Расіі

Нядаўна ў друку з'явіліся асобныя звесткі Усерасійскага перапісу насельніцтва 2002 года, у тым ліку і тыя, што датычаць нашых землякоў.

Згодна гэтых звестак, цяпер у Расіі жыве крыху больш за 145 мільёнаў жыхароў, з іх каля 815 тысяч (2,9 %) запісалі сябе беларусамі. Гэта значыць, што са 160 расійскіх нацыянальнасцяў беларусы па колькасці займаюць там 9-е месца. Найбольш нашых землякоў жыве ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Карэліі, Краснадарскім краі, Калінінградскай вобласці. У больш як 60 мясцінах Расійскай Федэрацыі нашы землякі маюць свае суполкі, якія аб'яднаныя ў нацыянальна-культурную арганізацыю "Беларусы Расіі".



# Гродзенскія юбілеі

*Краязнаўчы каляндар 2004 года падкажа, якіх асобаў ўслаўляць, якія даты адзначаць*

***Краязнаўчы аддзел Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага выпусціў "Краязнаўчы каляндар" на 2004 год. Выданне акажа добрую дапамогу шматлікім прыхільнікам гістарычнай спадчыны Прынёманскага краю. Неардынарным асобам, якія нарадзіліся, жылі, працавалі тут у розныя часы, прысвечаны бібліяграфічныя звесткі.***

Праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ Рыгор Цамблак у 1416 –1418 гадах меў у Навагрудку сваю рэзідэнцыю. У гэтым годзе прыпадае 460-я гадавіна з дня нараджэння гэтай асобы. Жыхары Гродна адзначаць 110-я ўгодкі заснавальніка мясцовага заапарка Яна Каханоўскага, польская рэлігійнага дзеяча Максімільяна Кольбе, які служыў у францысканскім касцёле, грамадска-культурнага дзеяча, кампазітара і музыканта Альбіна Стаповіча. Не забытае імя ўдзельніка партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны Міхаіла Белуша, які загінуў у 1944 годзе. Яму споўнілася б 80.

На гэты год прыпадае 125-годдзе з дня нараджэння грамадска-палітычнага дзеяча Заходняй Беларусі Васіля Рагулі, 120-годдзе – палітычнага і культурнага дзеяча, гісторыка, публіцыста, літаратурнага крытыка Антона Луцкевіча, лёс якога быў звітаваны з Гродам, рэлігійнага і грамадскага дзеяча Фабіяна Абрантовіча, польскай пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай. На Гродзеншчыне раскрыўся талент заходнебеларускага паэта Валянціна Таўлая (90 гадоў).

Прыпадаюць на 2004 год юбілейныя даты многіх навукоўцаў, якія нарадзіліся ў нашай вобласці. Сярод іх – мовазнаўцы, прафесары Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Павел Сцяцко і Іван Лепешаў (80), філосаф, літаратуразнавец Уладзімір Конан (70), мастацтвазнавец, палітычны і грамадскі дзеяч Зянон Пазьняк (60), пісьменнік Яўген Лецка (60).

Улетку грамадства адзначыць 80-годдзе Васіля Быкава, які пражыў у Гродне агулам 25 гадоў і стварыў тут шэраг знакамітых твораў.

Сярод памятных дат, якія прыпадаюць на 2004 год, – пачатак будаўніцтва Барысаглебскай царквы (1184), разгром Давыдам Гарадзенскім на чале войск ВКЛ пад сценамі Гродна войск Генрыха фон Плоцке, які трымаў шлях на Навагрудак (1314), крыжакоў у 1324 і 1364 гадах. У 1384 годзе Горадзен пасля дамовы Вітаўта і Ягайлы становіцца другой сталіцай ВКЛ. У 1389 годзе ўзгадваецца аб першым каталіцкім храме ў Гродне – Фары Вітаўта. У 1444 годзе Вялікі князь Казімір даруе Гродну поўнае магдэбургскае права, якое зацвярджае ў 1564 годзе Бельскі сейм.

На Гродзеншчыне шырока разгортваліся падзеі паўстання Касцюшкі (1794). У 1824 – 1839 гадах будуецца Аўгустоўскі канал, які злучыў Нёман з Віслай.

У 1869 годзе ў Гродне пасяляецца і жыве (да 1910 г.) Э. Ажэшка. У 1929 у гарадскім парку адноўлены ёй помнік. У 1949 – перанос гэтага помніка ў сквер на вуліцы імя гэтай славутай пісьменніцы.

Увосень 1909 года ў Гродне пачынае дзейнічаць гурток беларускай моладзі (ГГБМ) (бібліятэкар Л.А. Сівіцкая (Зоська Верас)). Пры гуртку існаваў першы ў Заходняй Беларусі беларускі тэатр. У горадзе выходзілі газеты "Бацькаўшчына", "Беларускі народ", "Беларусь", "Зорка", "Родны край".

Май – арышты актывістаў беларускага нацыянальнага руху (1919).

*Антон ЛАБОВІЧ, Гродна*

**З нашай пошты**

***Паважаныя сябры!***

***Мы, супрацоўнікі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея, з вялікай радасцю даведаліся, што з 2003 года выходзіць "Краязнаўчая газета". Пазнаёміліся з ёю – яна нам вельмі спадабалася разнастайнымі, цікавымі і для нас, музейшчыкаў, матэрыяламі. Вырашылі дружна падпісацца на "Краязнаўчую газету", што раім зрабіць і іншым.***

***В. АНЕНКАЎ, А. СЕДЗІН, І. ЛІСАЎ, усяго 20 подпісаў.***

**Братэрскія пачуцці**

## У падарунак кіргізам

Такую высакароднасць праявіў вядомы беларускі мастак А. Кашкурэвіч, падараваўшы Музею выяўленчага мастацтва ў Бішкеку ажно 18 сваіх карцін.

Карціны адмысловыя: мастак у свой час ілюстраваў выдатны раман "Буранны паўстанак" Чынгіза Айтматава ў выдатным перакладзе на беларускую мову Міхася Стральцова. Неўзабаве гэты пераклад з ілюстрацыямі будзе перавыдадзены ў сувязі з 75-гадовым юбілеем кіргізскага класіка. Пасол Кыргызскай Рэспублікі Р. Качкееў у Рэспубліцы Беларусь горача падзякаваў А. Кашкурэвічу за падарунак і ў сваю чаргу зрабіў свае падарункі яму, у тым ліку і нацыянальны кіргізскі халат.

**Жыццёвае**

## Пажылыя і старыя

У многіх краінах свету па самых розных прычынах усё менш і менш нараджаецца дзяцей, адпаведна паскараецца працэс пастарэння насельнікаў. Наша краіна не выключэнне. Цяпер у нас, як нядаўна паведаміла ў друку Міністэрства аховы здароўя, больш за 2 мільёны людзей, якім за 70 гадоў. Найбольш старэе вёска, дзе пенсіянераў каля трэці жыхароў. У многіх сельскіх мясцінах існуе праблема медыцынскага абслугоўвання хворых пажылых і старых людзей, многія з іх, асабліва адзінокія, маюць патрэбу ў інтэрнацкіх установах (іх у краіне больш за 70 на амаль 18 тысяч месц).

Беражыце старых людзей – крыніцу краязнаўства!

## Медыкі паведамляюць

Вядома, лепш за ўсё быць здаровым, таму людзі пры віншаваннях і пажаданнях (не толькі на Новы год) зычаць адно аднаму найперш здароўя. Але, на жаль, не кожны можа быць фізічна моцны, многія маюць патрэбу ў лячэнні ад самых розных хвароб.

На Міншчыне сёлета пачынаюць дзейнічаць дзве новыя бальніцы – у трохпавярховым лячэбным корпусе Капыльскай цэнтральнай раённай бальніцы, дзе будуць тры аддзяленні (хірургічнае, дзіцячае і генекалагічнае), і ў пасёлку Лясным Мінскага раёна, дзе размяшчаецца другі комплекс Мінскай абласной дзіцячай бальніцы, прыёмнае адзяленне і лячэбна-дыягнастычны корпус.

Для дзяцей, якія будуць лячыцца, прадугледжаны магчымасці адпачынку, заняткаў і паўнацэннага харчавання.



*Фота Міхася ХАМЦА*

**Школьныя нав**

## Камп'ютэры – у вясковыя школы

Без камп'ютэра кожны з нас цяпер не зусім сучасны, запатрабаваны. Старэйшым не проста авалодаць ім і набыць яго. А вось вучням, безумоўна, неабходна далучыцца да гэтай справы, што і намагаюцца ажыццявіць у Нясвіжскім раёне. Там за апошні год абсталявана камп'ютэрамі 10 сярэдніх раённых школ. У выніку ўсе 19 сярэдніх школ Нясвіжчыны маюць спрыяльныя магчымасці для вывучэння сучасных інфармацыйных тэхналогій.

## Ліцэй – салідна

На Гомельшчыне, у Мазыры, на базе СШ № 4 адкрываецца яшчэ адзін абласны ліцэй, дзе будуць навучацца больш за сотню вучняў старэйшых класаў з Нараўлянскага, Ельскага, Брагінскага, Хойніцкага і іншых раёнаў, што пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі. Гэта вырашана ў сувязі з тым, што падобнае навучанне ў абласным ліцэі ў Гомелі дае добрыя вынікі: літаральна ўсе яго выпускнікі паступаюць у ВНУ.

**Працяг знаёмства – школьнікі**

# "Бялыніцкі сшытак-3"

Наш чытач не мог не заўважыць: даволі частыя госці на старонках нашай газеты – аўтары з невялічкага магілёўскага гарадка Бялынічы. Больш – яны (а гэта найперш журналіст, краязнавец, літаратар Міхась Карпечанка) актывізуюць краязнаўчыя рух, даследаванні і ў блізкіх да Бялыніцкага раёнах. Хоць Беларускае краязнаўчае таварыства распалася, а Магілёўскае абласное паводзіць сябе няўпэўнена, а вось малады чалавек з Бялыніч, няўрымслівы энтузіяст, жыве зацікаўлена сам і зацікаўлівае іншых – гісторыяй, культурай свайго краю, вабіць, кліча, паказвае прыклад, як і ў цяжкі час быць чалавекам разумным, свядомым, духоўным. М. Карпечанка арганізуе краязнаўчыя суполкі, сходы, канферэнцыі, чытанні і да ўсяго не пакідае справу на паўдарозе, даводзіць яе да ладу і такім чынам дае магчымасць пазнаёміцца з пошукамі, здабыткамі і іншым.

Памяркуйце самі: "Бялынічы – вольнае мястэчка" – буклет, 2001; "Мастакі прыдруцкага краю" – буклет, 2001; "Бялыніцкі раённы мастацкі музей імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі" – буклет, 2001; М. Карпечанка "Вочы гісторыі" – брашура, 2002; "Бялыніцкі сшытак, выпуск другі": "Нітка часу бясконцая" – брашура, 2003. А яшчэ штоквартальнік "Бялыніцкая даўніна" з 2000 года. Нельга не парадавацца за грамадскае аб'яднанне "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства" і за іхнюю такую насычаную працу, што патрабуе жыццёвых сіл, ахвоты, шчырасці, паездак па вёсачках, сустрэч з людзьмі, корпання ў архівах. Давайце ва ўсіх гарадах, гарадках і вёсках дбаць вось так пра сваё, што побач з намі, – толькі заўваж, паглядзі, паслухай, вывучы і адлюструй, запішы! Сёе-тое з гэтага некалі можа знікнуць, дык няхай яно хоць у такім выглядзе, хоць адной дэталькаю, застанецца для нашчадкаў.

Не паспелі мы як след парадавацца за бялыніцкіх сяброў, за зробленае імі раней, а яны нам ужо ў гэтым, у 2004 годзе – новую ўцеху: "Бялыніцкі сшытак-3", дзе нястомны Міхась Карпечанка змясціў, адрэдагаваў і ў грамадскай супольнасці "Медыя", "Магілёў-3" выдаў зборнік краязнаўчых даследаванняў вучняў школ Бялыніцкага раёна і навучэнцаў мясцовага сельскагаспадарчага ПТВ № 217.





12 юных даследчыкаў палічылі неабходным не проста сузіраць, а пасля, ад'ехаўшы, быць абыякавым да сваёй "малой", а то і вялікай Радзімы – Беларусі, а змоладу далучыцца да яе спазнання. Хоць праз нейкі факт, помнікі ці пэўныя падзеі і іх удзельнікаў.

Вікторыя Ляпеша і Іна Ляпеша не маглі не напісаць пра свае Эсьмоны (там нядаўна школа адзначыла сваё 150-годдзе, пра што мы пісалі ў "КГ"), Андрэй Марозаў, Аксана Тарасенка і Аляксандр Вашанаў з СШ № 1 г.п. Бялынічы, Жана Малахава, Іван Шведаў, Андрэй Атрошкін, Святлана Лазарэвіч, Ганна Свірэйка, Вольга Бамбардзірава, Ганна Трахімік, Аксана Факуціна з СШ № 2, Аляксандр Пляскевіч, Анатоль Мінутка, Яўгенія Хітрыкава з Бялыніцкага ПТВ № 217 (хто на беларускай мове, хто на рускай) напісалі як пра даўнюю (эпохі ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Першай сусветнай вайны), так і навейшую (перыяду Вялікай Айчыннай вайны) гісторыю, дзе закрануты праблемы вывучэння пэўных з'яў ажно з XVI стагоддзя. Гэта – паходжанне бялыніцкіх мястэчак, іхні ўклад і побыт, эканоміка, занятак, культура землякоў у XVIII – XX стагоддзях, пра паходжанне мясцовых назваў, асобныя, малавядомыя эпізоды з двух сусветных войнаў, што пракаціліся ў XX стагоддзі і па нашай шматпакутнай зямлі.

Ёсць і публікацыі, якія ні адкуль не перапішаш, дзеля якіх патрэбны адпаведныя веды, самастойнае вывучэнне, аналіз – скажам, "Паглыбленне крызісных з'яў у эканоміцы раёна напрыканцы XX стагоддзя" (Я. Хітрыкава), "Оценка загрязненности среды Белыничей методом лихеноиндикации" (С. Лазарэвіч, Г. Свірэйка), "Природные богатства Белыниччины" (В. Бамбардзірава, Г. Трахімік). У гэтых даследаваннях – асноўныя спасылкі на раённую газету, дзе працуе М. Карпечанка, – значыць, раёнка на ўзроўні. А. Ракуціна змясціла лірычную мініяцюру, прысвечаную ўхвале роднага гарадскога дворыка, без якога проста не абыйсціся ў дзяцінстве.

На апошняй вокладцы выдання – карта Бялыніцкага раёна з прапановай чатачу адзначыць на ёй археалагічныя і гістарычныя мясціны, зніклыя вёскі і ўспомніць іхнія назвы.

А ў заключэнне да радасці за бялыніцкіх навучэнцаў-даследчыкаў хочацца дадаць нашу падзяку за параду на прадапошняй старонцы – падпісвацца на "Краязнаўчую газету" і чытаць яе. Разам з названымі сваімі выданнямі там хораша закруглена: "Чытайце сваё!" Далучаемся да такога заклiку.

***Ведаем, чулі: ёсць прыкладна такія выданні і ў іншых раёнах. Калі ласка, пішыце нам пра гэта, дасылайце мясцовыя даследаваннні і публікацыі. Гэта цікава ўсім.***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

**У таварыстве «Этна»**

# Шляхта: з гісторыі ў рэаліі

На жаль, сёння яшчэ не зусім ацэнена ў грамадстве роля цэлага саслоўя, назва якому – шляхта. А менавіта яна ўплывала на развіццё беларускай культуры, спрыяла нацыянальнаму адраджэнню. І мы павінны быць удзячнымі за гэта. Ды атрымліваецца наадварот... Жывуць простыя людзі – рабочыя і калгаснікі, мастакі і навукоўцы, вайскоўцы і артысты – і звычайна не ведаюць, што радаводы некаторых з іх сягаюць сівой даўніны, аж у XV – XVI стст., маючы да 15 пакаленняў слаўных продкаў. Амаль усё мінулае стагоддзе пра шляхту ў нас пісалі няшмат. Людзі забываліся пра свае карані. Паступова страчвалася памяць пра выдатныя старонкі гісторыі беларускай шляхты.

А гісторыя сапраўды была выдатная!

Якраз таму нядаўна гісторыка-краязнаўчае таварыства "Этна" БДУ культуры наладзіла сустрэчу студэнтаў з прафесарам, доктарам гістарычных навук А. П. Грыцкевічам на тэму: "Шляхта". Адкрытая лекцыя была надзвычай цікавай і сабрала шмат слухачоў.

Як адзначае навуковец, колькасць шляхты на Беларусі складала 10 – 12 % ад усяго насельніцтва. А ў Мінскай губерні гэта лічба даходзіла да 15 %. Да прыкладу, у Расійскай імперыі гэта лічба складала толькі 1 %.

Галоўным яе абавязкам было выступаць у паход, бараніць Бацькаўшчыну, выганяць ворага з роднай зямлі туды, адкуль прыйшоў. Адсюль і галоўны жыццёвы прынцып шляхты – "Гонар і годнасць".

Акрамя гэтага, шляхта заўсёды займала выразна патрыятычную пазіцыю, якая асабліва выявілася падчас змагання за адраджэнне дзяржавы ў шляхецкіх паўстаннях. Можна ўспомніць, што такіх паўстанняў на тэрыторыі Беларусі была вялікая колькасць (1794-ы, 1831-ы, 1863-і – 1864-ы гады). І паўсюль галоўным арганізатарам і асноўным чыннікам была шляхта. Касцюшка, Ясінскі, Грабоўскі, Ваўжэцкі, Кошыц, Каліноўскі, Урублеўскі – усе са старажытных шляхецкіх родаў. Амаль увесь адраджэнскі рух канца XIX – пачатку XX ст. таксама накіроўваўся прадстаўнікамі шляхты: Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Усевалад Ігнатоўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Ян Луцэвіч (Купала), Алаіза Пашкевіч (Цётка), Аркадзь Смоліч, Вацлаў Ластоўскі – пералік прозвішчаў можна доўжыць.

Быць шляхціцам сапраўды было гонарам. І паводзіць сябе трэба было адпаведна. Так, шляхціц ніколі не павінен быў біць жонку. А ўся шляхта была роўная ў правах. Нават самы бедны шляхціц (часам — без зямлі і сваіх сялянаў) тэарэтычна быў роўны магнату, напрыклад, Радзівілу. Адсюль зразумела, чаму найбагацейшы чалавек у Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. князь Караль Радзівіл называў простага шляхціца "панам-братам".

Такім чынам, шляхта адыграла значную ролю ў беларускай гісторыі і культуры.

Нам трэба памятаць і шанаваць традыцыі, звычаі, норавы нашых слаўных продкаў. Таму вельмі важна ладзіць такія лекцыі, семінары, прэзентацыі, што будуць уплываць на самасвядомасць людзей, абуджаць цікавасць да гісторыі сваёй краіны.

Гісторыка-краязнаўчае таварыства "Этна" плануе і далей працягваць падобныя сустрэчы.

*Павел КАРАЛЁЎ,*
*старшыня гісторыка-краязнаўчага таварыства "Этна" БДУ культуры*

**Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! У студзені нас стала болей. То будзьма разам і надалей. Каб разам пашыраць нашую сябрыну, нагадваем, што падпісацца на "КГ" можна з любога месяца. Давайце не губляцца ў вялікім свеце сучаснай мітусні!**

Падпісныя індэксы:

індывідуальны – 63320 ***(кошт на 1 месяц – 3 300 рублёў)***,
ведамасны – 633202 ***(3 409 рублёў)***.

***"... І дзякуй скажа родны край"***

# Будзе жыць Беларусь!

*Часам мне жыць*
*не пад сілу прыходзіцца,*
*Часам смяртэльная*
*думка зародзіцца,*
*Сэрца нудою шчыміць,*
*Як пагляджу,*
*што вакол мяне дзеецца...*
***«Сынам Беларусі»***
***М. Арол***

Шмат чытала пра Алеся Белакоза, захаплялася яго дзейнасцю і неяк пачала збіраць матэрыялы пра Гудзевіцкі музей. Асабліва багата было публікацый восенню. А. Белакозу споўнілася 75, Веры Белакоз – 70. Нядаўна М. Скобла прывёз у Вільню кнігу Алеся Белакоза «Каб жыла Беларусь». Прачытала і вырашыла неадкладна наведаць Гудзевічы. Дарога няблізкая. Але знайшліся ахвотнікі – Алена Верабей, яе муж, сын, сястра Валянціна Верабей (настаўніца гісторыі) мастоўскай школы. Яна патэлефанавала, узгадніла час. І мы ў музеі. Пяць гадзін праляцелі як адна хвіліна. У дзвюх апошніх залах былі толькі хвіліны літаральна. Восеньскія дні кароткія. Мне было ўсё цікава, я шмат ведала з публікацый, ведала, што ў Гудзевіцкім музеі знаходзіцца глобус з Віленскай беларускай гімназіі, хацелася памацаць падвойныя дываны, паглядзець рэчы Л. Геніюш, часопіс «Праменьчык», рукамыйнік і гэтак далей. Ёсць музеі краязнаўчыя пры школах, клубах, а вось каб вырасці да такога маштабу, атрымаць статус дзяржаўнага і стаць вядомым у свеце! Такі ёсць толькі ў Гудзевічах. Трэба абавязкова пабачыць: там прапануюць крамянёвую ваду, раскажуць, як можна лячыцца народнымі сродкамі. У пакоі народнай медыцыны затрымаліся больш, тут знаходзяцца матэрыялы, дасланыя Зоськай Верас, партрэт яе, намаляваны Вячкам Целешам, рэчы Пётры Сергіевіча, глобус, які падараваў музею Янка Багдановіч, выпускнік Віленскай беларускай гімназіі. А кнігі Я. Багдановіча «На жыццёвым шляху», якая выйшла пасля смерці аўтара, у музеі няма. Упэўнена – будзе. Вярнуліся з Гудзевічаў, перапоўненыя ўражаннямі ад пачутага і пабачанага. З такой любоўю Алесь Мікалаевіч расказваў пра паэта М. Арла, на памяць чытаў яго вершы, як і іншых паэтаў-землякоў, з гонарам распавядаў, што ўдалося ўстанавіць помнік, адкрыць забытае імя.

Я так шмат расказваю ў Вільні пра сустрэчу з Алесем Белакозам і пра тое, што ён робіць і які след пакіне на зямлі для нашчадкаў. Будзе жыць Беларусь, калі ёсць такі чалавек дзеі, як Алесь Мікалаевіч Белакоз, – сын сваёй Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

***Леакадзія МІЛАШ,***
***настаўніца беларускай мовы, г. Вільня***

*Ліст у рэдакцыю*

***Піша вам настаўнік гісторыі і кіраўнік гісторыка-краязнаўчага гуртка невялікай вясковай Ворнаўскай школы Кармянскага раёна.***

***Нядаўна пазнаёміўся з Вашым выданнем і зразумеў, што «Краязнаўчая газета» – наша выданне. Газета настаўнікаў і вучняў. З радасцю вучні і я сустрэлі публікацыі на гістарычныя і краязнаўчыя тэмы, вырашылі падпісацца, але не толькі...***

Вельмі хочацца, каб і наш голас быў пачуты. Сэрца баліць за мінулае і сённяшняе нашай Радзімы – Беларусі. Ва ўмовах масавага духоўнага спусташэння, апатыі, п'янства і паступовага фізічнага выраджэння і вымірання шукаеш пункты апірышча і спаталення душы. Такім апірышчам уяўляецца не толькі далучэнне да роднай мовы і гісторыі, але і дакрананне да роднай зямелькі, пачаткаў свайго роду, сваёй школы, мясцовасці. У гэтай справе наша школа мае даўнія традыцыі. Дзейнічаюць два музеі. Першы – мемарыяльны пакой акадэміка АН БССР Мікалая Дзмітрыевіча Несцяровіча (1903–1984) – дзейнічае з 1988 г. Летась нашаму славутаму земляку споўнілася б 100 гадоў. Таму (прынагодна) звяртаюся да ўсіх, хто ведаў гэтага вучонага і чалавека: калі ласка, падзяліцеся ўспамінамі (адрас прыкладаю). Жыццё і навуковая чыннасць Несцяровіча заслугоўвае вялікай павагі і пашаны яшчэ і таму, што Мікалай Дзмітрыевіч не толькі шмат зрабіў для навукі, але і стаў прыкладам таго, як просты вясковы хлопчык, дзякуючы дапытлівасці, настойлівасці і розуму «выбіўся ў людзі», з цягам часу стаў акадэмікам, арганізатарам навукі і паважаным чалавекам. Добры прыклад для нашых дзетак!

У музеі захоўваюцца асабістыя рэчы Несцяровіча і прасочваецца яго жыццёвы і творчы шлях.

У другім музеі (гісторыка-краязнаўчым) прадстаўлены экспанаты, якія складаюць археалагічны, этнаграфічны, нумізматычны, гістарычны аддзелы. Ёсць тут і куткі, прысвечаныя нашай вёсцы, школе, калгасу, беларуска-нямецкаму сяброўству (нашы дзеткі штогод выязджаюць на аздараўленне ў Германію). Экспазіцыя ўвесь час папаўняецца, асабліва за кошт рэчаў і матэрыялаў, назапашаных вучнямі-гурткоўцамі. Так, пад бокам у нас знаходзіцца знакамітая археалагічная стаянка Грэнск, якая дала імя археалагічнай культуры. З Грэнскім урочышчам звязаны некалькі цікавых легенд і паданняў. Адно з іх апавядае пра тое, як праз Карманшчыну (непадалёк Грэнска) праязджала на залатой карэце імператрыца Кацярына II. Быццам тады карэта згубіла кола і загразла. Мясцовыя жыхары доўгі час спрабавалі адшукаць згублены каштоўны скарб, але марна, пакуль урочышча не зацікавіла вядомага беларускага археолага К. М. Палікарповіча (у сярэдзіне 1920-х гадоў мінулага стагоддзя). Ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны тут неаднойчы праводзіліся археалагічныя раскопкі, толькі быў знойдзены зусім іншы скарб...



Акадэмік Несцяровіч

Сёлета ў нас ёсць яшчэ адна радасная падстава зазірнуць у мінулае. Спаўняецца 300 гадоў з часу першых вядомых пісьмовых звестак аб роднай вёсцы, якая згадваецца на год пазней за Пецярбург (у 1704 г.) у «Інвентары Чачэрскага староства» пад назвай «Вароснаўшчызна» і калісьці была «балярскім паселішчам»

На заканчэнне хацелася б выказаць некаторыя пажаданні. Каб газета была яшчэ больш цікавай і карыснай, добра было б зрабіць яе больш практычнай. Што я маю на ўвазе? На гэтых старонках цікава пабачыць больш практычных парад па арганізацыі і правядзенні краязнаўчых даследаванняў, паходаў і экскурсій, а таксама па захаванні скарбаў нашага краю ва ўмовах дзейнасці музея невялікай школкі. Бо нам, вучням і краязнаўцам, часцяком прыходзіцца пачынаць і вучыцца амаль з нуля, назапашваючы асабісты вопыт. Ёсць вялікае жаданне пазнаёміцца праз газету і наладзіць прамыя дачыненні з краязнаўцамі розных куточкаў Беларусі, пазнаёміцца з іх справамі і досведам. Са свайго боку абяцаю падзяліцца і сваімі сціплымі напрацоўкамі і працягнуць дыялог. Як добра пачуваць, калі ведаеш, што ты не адзін.

***Валерый ВАРГАНАЎ,***
***г.п. Карма***

**Ад рэдакцыі.** *Вашыя пажаданні, сп. Варганаў, мы абавязкова будзем улічваць і абяцаем друкаваць на старонках «КГ» метадычныя распрацоўкі музейнага і краязнаўчага накірунку.*



*Школка, здымак 1910-х гг.*

***Радзім ГАРЭЦКІ***

# Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***з кнігі «Вечна жыве Беларусь!»***

***(Працяг. Пачатак у № 1–5.)***

Геалогія вывучае цікавейшыя пытанні аб тым, як і калі ўзнікла зямная кара, кантыненты і акіяны – іх паходжанне і ўзрост, які быў клімат і фізіка-геаграфічныя ўмовы ў розныя перыяды развіцця Зямлі. Узнікненне жыцця на Зямлі, росквіт і вялікія выміранні і аднаўленні арганічнага свету і іх прычыны, вялікія кантынентальныя абледзяненні – іх колькасць і прычыны, уплыў касмічных працэсаў на развіццё Зямлі, праявы вулканічнай дзейнасці і землятрусаў, унутранае цяпло Зямлі, крыніца энергіі глыбінных геалагічных працэсаў і многія іншыя феномены – усё гэта асноўныя праблемы геалогіі.

Важнае месца неабходна адвесці этапам развіцця прыроды ва ўсе геалагічныя перыяды – ад часу ўзнікнення жыцця на Зямлі да з'яўлення чалавека і нашых дзён. Геалогія – навука гістарычная, яна вывучае гісторыю развіцця асобных краін, рэгіёнаў, усёй Зямлі. Гэтай гісторыі каля 4,5 млрд. гадоў. Дык чаму мы ў школе вывучаем гісторыю краіны толькі з паяўлення чалавека, а гісторыю той зямлі, на якой мы жывём, не ведаем? Вывучаем, што здарылася за апошнія некалькі дзесяткаў тысяч гадоў, а што было мільёны гадоў раней – нас чамусьці не цікавіць. Тут вучні даведаюцца, што кантыненты павольна падарожнічалі на паверхні планеты. Таму і тэрыторыі Беларусі давялося пабываць у розных шыротах. Напрыклад, 600 млн. гадоў назад наш кавалачак Еўропы знаходзіўся недалёка ад паўднёвага полюса, і таму сюды напаўзалі ледавікі. Затое каля 370 млн. гадоў назад беларуская зямля апынулася ля экватара, і ў марскіх лагунах, якія тады былі на месцы Прыпяцкага Палесся, назапасіліся магутныя пласты солей. У апошнія ж мільён гадоў, калі наш край заняў на планеце сваё сучаснае месца, ледавікі некалькі разоў прыпаўзалі ўжо з поўначы, са Скандынавіі.

Важную ролю трэба будзе адвесці карысным выкапням, бо вучні павінны ведаць, што большасць рэчаў, патрэбных чалавеку, выраблена з мінеральнай сыравіны. Як ужо было паказана, па еўрапейскіх мерках мы досыць багатая на такую сыравіну краіна.

Геалогія не толькі глабальная навука аб будове і развіцці ўсёй Зямлі, але ў значнай меры і рэгіянальная навука. Таму ў падручніку давядзецца спалучаць звесткі па геалогіі розных куткоў Зямлі з інфармацыяй па Беларусі, прычым галоўны акцэнт прыйдзецца рабіць на мясцовыя матэрыялы. Тут дарэчы сказаць, што ў апошнія дзесяцігоддзі беларускія геолагі здабылі такія багатыя звесткі пра будову і багацці свайго краю, што многія лічаць яго адным з найбольш дэталёва вывучаных месцаў Усходне-Еўрапейскай платформы.

Падручнік па геалогіі здольны хутка падрыхтаваць выкладчыкі нашых ВНУ і навукоўцы. У бліжэйшыя гады весці гэты курс у школе маглі б пры мінімальнай падрыхтоўцы настаўнікі геаграфіі. Зараз на геаграфічным факультэце БДУ рыхтуюцца спецыялісты-геолагі – частка з іх маглі б пайсці ў школу. Часам, акрамя падручніка, спатрэбіцца «Кніга для чытання па геалогіі Беларусі» (хрэстаматыя), адпаведны падручнік для вышэйшых устаноў, розныя метадычныя распрацоўкі.

Наспеў час прыйсці геалогіі ў беларускую школу!

## НА СТЫКУ НАВУК

Усё ў прыродзе ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена, і чалавек, як частка прыроды, таксама поўнасцю падпарадкаваны ёй. Яшчэ адносна нядаўна мы лічылі, што чалавек павінен перарабіць прыроду, цалкам падначаліць яе сабе, узяць ад яе ўсё, што можна, – і прывялі яе, а разам з ёй і экалагічную сітуацыю, на грань катастрофы. Праблема экалогіі – пабудова нашага зямнога дому і нармальнага жыцця ў ім – стала праблемай нумар адзін для ўсяго чалавецтва. Тэхнагенныя дзеянні цяпер дасягаюць моцы прыродных геалагічных працэсаў. Экалогія – навука ўсеабдымная: яна мае адносіны і да ўсяго чалавецтва, да ўсяго зямнога шара і датычыцца кожнага з нас, бо парадак і нармальныя ўмовы ў доме людзей патрэбны ўсюды – як цалкам на Зямлі, так і ў кожнай краіне, у кожнай хаце, у кожнай сям'і.

Як мы бачылі, геалогія – вельмі шырокі комплекс навук аб літасферы, іншых зямных абалонках і аб Зямлі цалкам, яе складзе, будове, рухах, гісторыі развіцця, знаходжанні ў ёй карысных выкапняў. У сувязі з канкрэтнымі задачамі вылучаецца шэраг больш вузкіх навуковых геалагічных дысцыплін: дынамічная геалогія, гістарычная геалогія, інжынерная, вугальная, нафтавая, касмічная і г. д. У апошні час у самастойны напрамак стала вылучацца экалагічная геалогія і яе раздзелы (экалагічная геафізіка, экалагічная геахімія і інш.). Яна займаецца тымі геалагічнымі даследаваннямі, якія звязаны з рашэннем праблем экалогіі, захаваннем прыроднага асяроддзя.

Тут можна вызначыць два аспекты: уздзеянне чалавека на прыроднае асяроддзе, што прыводзіць да парушэння нармальнага стану апошняга, і, наадварот, уплыў натуральных і штучных фізічных палёў на чалавека і яго гаспадарчую дзейнасць. Чалавек так моцна ўздзейнічае на натуральныя ландшафты, што яны ўжо нярэдка змяняюцца на тыповыя тэхнагенныя. Ён стварае новыя геахімічныя правінцыі, прыкладам чаго стала вялізная па плошчы Чарнобыльская зона радыеактыўнага забруджвання. З другога боку, чалавек і асобныя яго органы з'яўляюцца генератарамі фізічных палёў, якія ўступаюць ва ўзаемадзеянне з геафізічнымі палямі Зямлі. Важна вывучыць характар гэтага ўзаемадзеяння, каб выключыць яго адмоўныя моманты.

Шырока вядома, што магнітныя буры змяняюць параметры біямагнітнага поля чалавека і адмоўна ўплываюць на стан здароўя людзей. Яны таксама індуцыруюць электрычныя (тэлурычныя) токі, якія парушаюць работу электрамагнітнай апаратуры. Вядомы выпадкі адключэння святлафораў на Беларускай чыгунцы ў час інтэнсіўных магнітных бур.

*(Працяг будзе.)*





Алімпіяды

## Па беларускай мове – у Лідзе

У мінулым месяцы ў Лідскім педкаледжы былі падведзены вынікі алімпіяды на лепшае веданне беларускай мовы.

У алімпіядзе лідэрамі сталі 10 навучэнцаў, а з іх пераможцамі – двое: Алена Станчык і Вольга Грынкевіч. Яны паспаборнічаюць па беларускім мовазнаўстве на абласной алімпіядзе.

Усе ўдзельнікі атрымалі прызы – кнігі беларускіх пісьменнікаў, а таксама выдадзены Гродзенскай абласной радай ТБМ "Беларускі спеўнік", які мае невялічкі фармат і складаецца з 73 беларускіх разнатэмных песен. Уклалі яго тэбэзмавец Алесь Міцюкевіч і кампазітар Яўген Петрашэвіч.

Прызы пераможцам уручалі старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, галоўны рэдактар газеты "Наша слова" паэт Станіслаў Суднік і выкладчык беларускай мовы Лідскага педкаледжа Міхась Мельнік.

Лідская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны даволі шматлікая, да 250 чалавек, а беларуская мова ў Лідскім педкаледжы ў пашане.

# Знаходка, якую даўно чакалі

***Сапраўды, часопіс, які выпускалі навучэнцы Дзісенскай гімназіі ў 1930 –1939 гадах, я шукаў гадоў дваццаць. У музеі СШ № 3 была ксеракопія толькі аднаго нумара, дасланага некалькі гадоў таму выпускніком гімназіі аж з ЗША. Нават дзіўным здавалася, што ёсць знаходкі, якім шмат тысяч гадоў, а параўнальна нестарога выдання няма. І вось чытаю ў польскамоўнай газеце "Глос з-пад Нёмна" аб знаходцы часопіса Анатолем Якаўлевым з Віцебска. Гэта прозвішча мне добра знаёмае, мы з ім даўнія сябры. Капітан другога рангу выйшаў на пенсію і актыўна заняўся вывучэннем невядомых старонак гісторыі Віцебшчыны, асабліва звязаных з польскай культурай. Ён не адмовіў у просьбе падараваць для музея набытыя ім нумары часопіса, а пры сустрэчы нагадаў пра гісторыю знаходкі. Прачытаўшы абвестку ў віцебскай газеце пра продаж польскай літаратуры, ён наведаў гаспадара. Ім аказаўся былы выпускнік Дзісенскай гімназіі Юзаф Сасновік з Германавічаў, які пры ад'ездзе ў Ізраіль прадаваў сваю бібліятэку.***

Пра што расказваюць знойдзеныя часопісы?

Іх рэдактарам быў вучань гімназіі Генрык Пухальскі, апекуном прафесар Станкевіч. У часопісе № 1 за 1938 год першы артыкул прысвечаны патрону Дзісенскай гімназіі ксяндзу Гжэгажу Перамовічу. Яго аўтар вучаніца чацвёртага класа Хрысціна Венбержанка ў сціслай форме паказвае выдатную постаць дзеяча XVIII стагоддзя, які шмат зрабіў для развіцця адукацыі Рэчы Паспалітай.

Рэвека Явіч разважае аб ролі маладога чалавека і фарміраванні яго галоўных каштоўнасцяў – адукацыі, адказнасці перад сабой і грамадствам, самавыхаванні і іншага.

Яўген Мончык з другога класа правёў сапраўднае даследаванне сярод навучэнцаў гімназіі пра іх сацыяльнае і тэрытарыяльнае паходжанне. Так, большасць вучняў была з сем'яў, якія валодалі ўгоддзямі ў 1 – 10 гектараў – 29 %, з валодаючых 10 – 20 гектарамі – 24 %. А вось навучэнцаў з багатых сем'яў, якія валодалі звыш 100 га зямлі, было ўсяго 9 %. Гэта абвяргае ранейшае ідэалагічнае меркаванне, што адукацыю атрымлівалі толькі дзеці паноў і асаднікаў.

Больш паловы вучняў паходзіла з глухіх вёсак, 30 % – з гарадоў тыпу Дзісны, 18 % – з мястэчкаў, такіх, як Язна і Пагост. З самой Дзісны было больш 25 % вучняў, з Язна і Мікалаёва – звыш 17 %, астатнія з Шаркаўшчыны, Глыбокага, іншых ваколіц.

Артыкул Маслоўскай прысвечаны палітычным падзеям пасля заваёвы Польшчай незалежнасці.

Звяртае ўвагу публікацыя Явіч, прысвечаная польскаму паўстанцу і паэту Адаму Асн響. Выпускніца Наталля Шашко-Хвашчынская апавядае пра цудоўнае падарожжа па Польшчы. Марыя Пятроўская з замілаваннем напісала апавяданне "Мой родны горад". В. Таберска (напэўна, дачка камандзіра пагранічнай варты ў Дзісне) – пра 20-годдзе выхаду Польшчы да мора. Пра адпачынак у харцэрскім лагеры на Нарачы апавядае Б. Шашко-Хвашчынскі. Ён надрукаваў таксама верш свайго сябра Антона Шантара "Нарачанскія хвалі".

Рубрыка "Арганізацыя нашага жыцця" апавядае пра вучнёўскае самакіраванне ў гімназіі і класах. Тут дзейнічалі літаратурная (рэдакцыя "Нашага голасу"), драматычная, спартыўная, музычная, краязнаўчая секцыі або міністэрствы. "Святліца" займалася аветніцкай дзейнасцю, распаўсюджаннем газет і часопісаў сярод вучняў і бацькоў. "Братняя дапамога" падтрымлівала маламаёмных вучняў пры набыцці падручнікаў. Цікава, што намеснікам у гэтай секцыі быў Эўгеніуш Забэла, які нядаўна выдаў цудоўную кнігу пра Дзісну.

У часопісе ўтрымліваецца інфармацыя аб дзейнасці ў Дзісне розных грамадскіх арганізацый.

Але асабліва пазнавальны для нас № 2 часопіса за 1938 год. У ім вучні-карэспандэнты даследуюць святы і звычаі нашага краю. Перадаём толькі іх назвы: дзяды, каляды, хрэсьбіны, варажба "Аб песні беларускай". На мясцовым матэрыяле напісаны апавяданні "Помста" і "Як Васіль Лапцёнак ажаніўся з Агатай Гарбузоўнай". Тут жа верш былога навучэнца гімназіі і рэдактара часопіса Яна Гушчы "Аповесць пра фальварак" і фельетон.

Знаходзім новыя прозвішчы аўтараў – А. Качан, Ю. Рымдзёнак, К. Іванькові, Я. Бабіч. Жартоўнае пажаданне выпускнікам падпісана псеўданімам "Перамовіч".

Пра жыццё гімназіі і Дзісны распавядае рубрыка "Каляндар рэпарцёра". Так, у 1937 годзе гімназію наведаў ваявода, у народным доме адбыўся вечар дэкламацыі пані Рыж. Краязнаўчы аддзел наладзіў свята мясцовых песняў і танцаў, адбываліся літаратурныя чытанні на прэзентацыі новых кніжак, урачыстасці з нагоды Дня незалежнасці, гадавін паўстанняў, канферэнцыі, для навучэнцаў старэйшых класаў і выкладчыкаў праводзіліся танцавальныя вечары, адзначаліся дні нараджэння прэзідэнта, імяніны дырэктара гімназіі Язэпа Мечжыка. У канцы падаецца спіс новых кніг, якія паступілі ў бібліятэку гімназіі. Вядомыя аўтары – Д. Лондан, В. Скот, Р. Кіплінг, Г. Сенкевіч, спецыяльныя выданні па музыцы, гісторыі і інш.

Часопіс паведамляе, што навучэнцы гімназіі і іх бацькі сабралі 1 200 злотых для пакупкі фурманкі і каня пад цяжкі кулямёт для пагранічнікаў Дзісны. Таму патрэбныя для выдання часопіса № 3 грошы выкарыстаны.

Подых блізкай вайны адчуваецца ў № 4 "Голаса" за 1939 год. На першай старонцы выказванне галоўнакамандуючага Рыдза-Сміглага аб гатоўнасці да абароны Айчыны. У перадавым артыкуле рэдактара Генрыка Пухальскага "Школьная моладзь – дух вайсковы, дух геройскі" ідзе размова пра гераічныя старонкі барацьбы польскага народа за незалежнасць. Тэма працягваецца публікацыяй С. Базылевіча "Народ у сумеснай працы з арміяй". Чуллівыя разважанні ў матэрыяле Шашко-Хвашчынскай "Сэрца маці". Высокі ўзровень публікацыі Р. Явіч "Уражанні аб прачытанні новай польскай аповесці".

Яўген Мончык разважае аб праблемах сельскай гаспадаркі Дзісеншчыны і ролі моладзі ў іх вырашэнні ў артыкуле "Чаго чакае ад нас вёска?" Разважанні заканчваюцца словамі "Бласлаўлена зямля, бласлаўлены народ, які жыве на гэтай зямлі".

У гэтым нумары змешчана гумарэска "Як мой лепшы сябра атрымаў двойку". Тут жа спіс выпускнікоў 1939 года. Іх усяго 10. Як заўсёды, шмат інфармацыі аб падзеях у гімназіі і Дзісне. Гэта святкаванне канстытуцыі 3 мая, вандроўка гімназістаў у Мікалаёва, дзе яны арганізавалі пастаноўку "Кракаўскае вяселле". Вяскоўцам спадабаліся маладыя артысткі Яніна Мачульская і Алена Лабуць, народныя танцы.

Часопісы выдзяляюцца змястоўнасцю і высокім узроўнем артыкулаў. Відаць, невыпадкова з Дзісенскай гімназіі, якая існавала менш 20 гадоў, выйшлі дзесяткі вучоных, паэтаў, грамадскіх дзеячаў, якія назаўсёды захавалі любоў да роднага краю.

***Вітольд ЕРМАЛЁНАК,***
***г. Мёры***



# Як тут было?

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ НА ШКЛОЎШЧЫНЕ

*Так, будзем помніць мы ў кайданах,*
*Падняўшы сэрцы ўгару,*
*Што так, як Бог ускрыжаваны,*
*Уваскрэсьне наша Беларусь.*

*Ларыса Геніюш*

***Уздым нацыянальнага руху на Беларусі ў пачатку 90-х гадоў нарадзіў надзею, што нарэшце насталі спрыяльныя ўмовы для адраджэння беларускай мовы. Але працэс гэты быў нядоўгім, і ў хуткім часе надзею змяніла роспач. Неаднаразова, аналізуючы моўныя падзеі на Беларусі, у думках міжволі ўзнікала пытанне: "А ці з'яўляецца беларуская мова ўвогуле "матчынай мовай" менавіта для нас, жыхароў Шклоўшчыны?"***

ЯК ВЯДОМА, першыя помнікі, напісаныя па-беларуску, захаваліся з XIII стагоддзя і паходзяць з земляў Полацкай і Смаленскай. У XIV стагоддзі беларуская мова стала гаспадарчай у новым беларускім гаспадарстве, вядомым у гісторыі пад назвай Вялікае княства Літоўскае. Шклоў мае непасрэднае дачыненне да гэтых зямель.

Найбольш ранняе паведамленне непасрэдна аб мове ў тутэйшых мясцінах можна знайсці, азнаёміўшыся з працай Ганны Запартыкі "Страчаныя скарбы манастырскіх бібліятэк", надрукаванай у часопісе "Спадчына" за 1997 год. Аўтар паведамляе пра рукапісныя манастырскія скарбы, у тым ліку пра царкоўную кнігу "Чэцці-мінеі", напісаную ў 1669 годзе па-беларуску. Гісторыю гэтага рукапісу раскрываюць надпісы на старонках: «сию книгу глаголемую житие святыхъ отецъ на монастырь Кутеенский панъ Іван Касабуцкій мещанин Шкловскій». Можна спадзявацца, што шклоўскі мешчанін Іван Касабуцкі, працуючы ў Куцеінскім манастыры каля Оршы, прадоўжыў справу беларускага першадрукара Францыска Скарыны і рабіў свой пачэсны ўклад у распаўсюджванне кніг на зразумелай "люду паспалітаму" мове.

Беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім да канца XVII стагоддзя. Аднак у сувязі з палітычнымі абставінамі ў далейшым пачаўся яе заняпад. Першымі перасталі гаварыць па-беларуску магнаты, а далей і звычайныя панове. Носьбітамі роднай мовы засталіся сяляне, збяднелае мяшчанства і шляхта. Аднолькавыя працэсы адбываліся і ў шклоўскім наваколлі. Пасля наведвання ў 1792 годзе Шклова вядомы рускі генерал С. А. Тучкоў напісаў: "Мы покинули Беларусь... Язык, употребляемый простым народом и земледельцами или крестьянами, весьма разнится от настоящего польского, употребляемого дворянством. Он ближе подходит русскому и не имеет такого набора латинских и немецких слов".

Яшчэ доўгі час беларуская мова захоўвалася ў набажэнствах уніяцкай царквы і асобных рымска-каталіцкіх парафіях. Вось што паведамляла газета "Наша Ніва" ў кастрычніку 1908 года пра вёску Фашчаўка сучаснага Шклоўскага раёна: "...тутака (у Фашчаўцы) скрозь жывуць беларусы, але ёсць і трохі літвінаў. Вось, у тутэйшым касцёле завёўся цяпер парадак, што казанні ксяндзы кажуць па-польску, палітоўску і па-беларуску; таксама спявае народ песні касцёльныя ў гэтых трох мовах. Беларусы тутэйшыя, як пачулі першы раз казанні ў сваёй мове, дык ад радасці аж заплакалі". Наведаў у свой час гэтую парафію святар Канстанцін Стэповіч, вядомы у беларускай літаратуры як паэт Казімір Сваяк, і вось што ён напісаў: "Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол расселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кругом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў... Хвашчоўка так добра перахапіла свой беларускі характар, што сялянкі дагэтуль убіраюцца ў строі народныя".

НОВАЯ ХВАЛЯ беларускага адраджэння пачынаецца ў пачатку XX стагоддзя. 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, а ў 1919 – 1920 гадах – Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. На дзяржаўным узроўні пачынаецца праца па адраджэнні беларускай мовы. Як сведчыць "Справаздача аб дзейнасці Магілёўскага акруговага выканаўчага камітэта Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў" ад 20 сакавіка 1927 года, у 1925 годзе ўсе школы ў акрузе, якія мелі пераважную колькасць вучняў-беларусаў, былі пераведзены на родную мову. Амаль што ўсе ўстановы ў справаводстве перайшлі на беларускую мову. У 1925 годзе ствараліся беларускія курсы, якія працавалі пры розных установах... Актывізавалася дзейнасць у гэтым напрамку краязнаўчага таварыства. Пашыралася работа па эканамічным, этнаграфічным даследаванні Магілёўшчыны, збіранні слоў жывой беларускай мовы.

Часопіс "Прафесійны рух Беларусі" ў артыкуле "Бярыце прыклад" паведамляў: "15 траўня ў Шклове адбыўся выпуск слухачоў курсаў беларускай мовы пры прафесійным Бюро. Калі раней селянін, прыходзячы з вёскі па сваіх справах у тую ці іншую ўстанову, чуў толькі расейскую мову, незразумелую для яго, ён пачынаў скардзіцца. Селянін думаў пры гэтым: "Навошта яго дзеці вучацца на роднай мове, калі яна нідзе не ўжываецца, акрамя школы і вёскі, калі яе і па сучасны момант ганьбуюць, лічачы мовай мужыцкай".

Цяпер жа, дзякуючы таму, што працаўнікі савецкіх устаноў г. Шклова добра ўявілі сабе беларускую мову, селянін наш пачуе матчыну мову не толькі ў школах, але і ў іншых нашых установах. Ён будзе цяпер атрымліваць розныя паперы з рады на сваёй мове, якая раней, пры царскай уладзе, была затаптана ў гразь разам з селянінам, ужываўшым яе. Трэба толькі пажадаць, каб нашы адпаведныя кіраўнікі пайшлі гэтым шляхам і хутка ўявілі сабе мову селяніна – мову таго народу, ад якога мы ўтварыліся, сярод якога прымушаны працаваць. Бо колькі б мы ні працавалі на чужой мове, не ведаючы сваёй сучаснай і мінулай гісторыі жыцця нашага народу, наша праца не будзе карыснай".

Вялікую ролю ў аднаўленні літаратурнай мовы ў гэты час адыгралі беларускія пісьменнікі. Сярод гэтых дзеячаў знаходзіцца і Міхась Зарэцкі (Касянкоў). Дзяцінства будучага пісьменніка прайшло на Шклоўшчыне ў вёсцы Зарэчча. Менавіта пад уражаннем вёскі, якая раскінулася на супрацьлеглым ад Шклова беразе Дняпра, нарадзіўся і пісьменніцкі псеўданім.

Але праца гэтая не была завершаная. Напрыканцы 1920-х гадоў бальшавіцкія ўлады абвінавацілі мовазнаўцаў у шкодніцтве і за некалькі хваляў рэпрэсій вынішчылі іх фізічна. Не мінуў гэты лёс і Міхася Зарэцкага. У 1933 годзе беларускай мове спешна, без грамадскага абмеркавання, дэкрэтам навязалі рэформу. Мэтай яе было "ліквідаваць штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі", гэта значыць спыніць развіццё беларускай мовы, пазбавіць яе непаўторнага аблічча.

АДНАК МОВА не памерла. Ужо ў пасляваенны час Шклоўшчына нарадзіла новых пісьменнікаў. Гэта паэты Сцяпан Гаўрусёў, Яўген Крупенька, Анатоль Сербантовіч, Аляксандр Жыгуноў, празаік Уладзімір Шыцік і іншыя. Шмат гадоў працуе на Шклоўшчыне літаратар Лявон Анціпенка. Апошні раз сваю нязломную волю да выжывання беларуская мова яскрава засведчыла падчас апошняга перапісу насельніцтва Беларусі ў 1999 годзе, калі 86 % насельніцтва Рэспублікі Беларусь назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37 % афіцыйна засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску.

***Аляксандр ГРУДЗІНА,***
***г. Шклоў***

***Карта... Колькі цікавых і невядомых мясцін яна хавае ў сабе! За простымі значкамі і назвамі гарадоў і вёсак я намагаюся ўявіць іх выгляд, малюю ў фантазіі прыгожыя, хуткія рэчкі ці вялікія цёмныя лясы, утульныя маленькія вёскі альбо розныя гарады з іх прыгожай архітэктурай. Асабліва ж пяшчотныя пачуцці, безумоўна, выклікае карта нашай краіны. Калі бачу на ёй знаёмыя і любыя сэрцу мясціны, я заўсёды ўспамінаю іх непаўторную прыгажосць, паданні і легенды, звязаныя з імі. Але адначасова разумею, колькі яшчэ нязведаных, але не менш выдатных мясцін мне не знаёмы.***

***Таму, вырашыўшы лепей пазнаёміцца са сваёй Радзімай, у апошні халодны восенькі дзень я рушыла ў невялічкую вандроўку з клубам "Дыяруш", у які ўваходзяць дзяўчаты і юнакі з гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Выехалі мы з Мінска вельмі рана, каб паспець да вечара паглядзець усе мясціны, якія мы збіраліся наведаць.***

*Нататкі вандроўніка*

# "Каб любіць Беларусь нашу мілую..."

Першай вёсачкай, дзе мы прыпыніліся, была Ішкалдзь, што знаходзіцца ў Баранавіцкім раёне. Тут мы наведалі касцёл Прасвятой Тройцы. Сваю гісторыю ён вядзе аж з 1472 года, калі, паводле інвентара, быў асвечаны. Пабудаваны ж быў па ініцыятыве Мікалая Несцяровіча, які займаў пасаду старосты віцебскага, смаленскага, любельскага і г.д. Гэты храм – адзін з каштоўных дыяментаў сярэдневяковай позняй готыкі на Беларусі і мае шмат агульнага з абаронным храмамі Заходняй Еўропы. На нашай зямлі, па меркаваннях гісторыкаў, ён быў таксама пабудаваны для абароны ад навалы крымскіх татараў. Узведзены быў, дарэчы, на невялікай горачцы, на якой раней было язычніцкае капішча. У першай палове XVI стагоддзя пры князю Мікалаю Радзівілу Чорным касцёл стаў кальвіністцкім зборам. Аднак у 1641 годзе Радзівілы зноў аднавілі ў ім каталіцкае набажэнства. Але толькі на два стагоддзі, бо ў 1868 годзе касцёл пасля паўстання К. Каліноўскага перетваралі ў праваслаўную царкву. Каля яе таксама была пабудавана драўляная парафіяльная школа. У 1918 годзе храм зноў стаў каталіцкім і ў 1970-я быў адрэстаўраваны і вернуты вернікам пасля невялікага перапынку. Існуюць таксама меркаванні, што паміж касцёлам і панскім дваром быў ход, які злучаў іх. Адным са скарбаў касцёла з'яўляецца кнігі XVII стагоддзя. У яго бібліятэцы былі таксама і больш старажытныя, але яны згубіліся пасля Першай сусветнай вайны. Галоўным жа скарбам храма з'яўляюцца яго вернікі. Дзякуючы таксама і іх намаганням, зараз, як, напэўна, і шмат гадоў таму, касцёл прыгожа ўбраны.



Новы Свержань



Сноў

Натхнёныя ўбачаным, у прыўзнятым настроі, мы працягвалі нашу вандроўку па абшарах роднай зямлі. Наступным месцам нашай вандроўкі была вёска Сноў. Адным з цікавейшых яе мясцін з'яўляецца палацава-паркавы ансамбль. Спачатку ён належаў Радзівілам, але потым перайшоў да Рдултоўскіх. Першым адметным прадстаўніком гэтага роду з'яўляецца Ян Багуслаў Рдултоўскі, маршалак Навагрудскага павету. Яго ўнук Ян Хрызостым быў харунжым таго ж павету і атрымаў ордэн святога Станіслава і Баварскі ордэн. Сын яго, Казімір, атрымаў выдатную адукацыю ў Оксфардзе і ажаніўся са сваёй зводнай сястрою. Для таго часу гэта быў вельмі эксцэнтрычны ўчынак, але гэта не перашкодзіла Казіміру Рдултоўскаму заняць пасаду павятовага Наваградскага павету ў 1811 годзе, а ў 1827 годзе пабудаваць мураваны палац у стылі класіцызму на месцы ранейшага драўлянага. Архітэктарам яго стаў Б. Тычэцкі. Унук жа Яна Хрызостыма – Канстанцін – валодаў выключным талентам паэта і літаратара. Ведаючы шмат моў, ён рабіў пераклады твораў свайго сябра Адама Міцкевіча. А вось сын Канстанціна – Ануфры – быў не такі здольны, як яго дзед і бацька, спадчынаю распарадзіўся дрэнна і будынак трапіў спачатку ў рукі Абуховічаў, а потым у 1854 годзе барону Густаву Харцінгу, які адкрыў спіртзавод і трымаў манапольку. У 1929 годзе пасля рамонту палац быў прыстасаваны пад канцылярыю і жыллё афіцэраў польскага корпуса аховы мяжы. Выкарыстоўваўся таксама і як казіно.

Але нават зараз, пасля шматлікіх выпрабаванняў лёсам палац захаваў адбітак сваёй былой велічы і прыгажосці. У ім было больш за 100 пакояў, а галоўная бальная зала займала больш за 100 м². Яна была аздоблена нішамі, скульптурамі, каланадай. Знаходзілася там і кафляная печ, якая адзіная захавалася да нашага часу.

Вакол палаца раней быў прыгожы вялікі парк. Яго асновай з'яўляліся штучныя ставы, якія мелі крынічнае сілкаванне. Сярод іх знаходзіліся невялічкія астравы, да якіх вялі прыгожыя масты.. На адным з астравоў знаходзілася альтанка, дзе любілі сядзець Адам Міцкевіч і Канстанцін Рдултоўскі. Зараз жа ад былога парку засталася толькі алея з вялікімі прыгожымі дрэвамі і невялічкі пладовы сад.

Калі глядзіш на палац і парк, вельмі проста ўявіць сабе прыгожыя балі, прыёмы, што праходзілі ў іх. Быццам насамрэч бачыш постаці Міцкевіча і Рдултоўскага, якія, размаўляючы пра мастацтва, гуляюць уздоўж алеі. Пяшчотнае сонейка прабіваецца скрозь густую лістоту дрэў-волатаў, асвятляючы сонечнымі зайчыкамі твары пісьменнікаў. А недзе ў глыбіні парку каля вады сядзіць дзяўчына, задуменна гледзячы ў нябачную далеч. Трэба зазначыць, што ўсё навокал вельмі спрыяе гэтаму.

Але зараз позняя восень, парк выглядае даволі шэра і няўтульна. Сярод прыгожых старажытных дрэў узвышаюцца елкі, а на пашкоджанай сцяне палаца вісціь чырвоная шыльда з надпісам "Клуб".

І ўсё ж не пакідае надзея, што гэта ўсё калісьці зменіцца. У дзяржавы, а можа, і ў інвестараў знойдуцца сродкі, каб аднавіць гэты палацава-паркавы ансамбль. Тады ён захаваецца для нашых нашчадкаў і будзе вабіць іх вока сваёй неўміручай велічу і прыгажосцю.

А зараз трэба спяшацца далей, бо наперадзе нас чакае Новы Свержань – вёска каля Стоўбцоў. У яе таксама ёсць свая цікавая і загадкавая гісторыя, сведкам якой з'яўляюцца два прыгожыя бялюткія будынкі праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла, што мірна суседнічаюць на адной плошчы. Але ж самым старажытным збудаваннем, ад якога, напэўна, і з'явілася паселішча, быў замак, які знаходзіўся на беразе Нёмана. У 1428 годзе князь Вітаўт падараваў яго сваёй жонцы Ульяне. Потым пры князю Казіміру замак належаў Андрэю Мажайскаму, а пры князю Аляксандру – Яну Храптовічу. Ён жа пасля смерці пакінуў яго дзвюм сваім дочкам. Зразумела, што з гэтага часу замкам валодалі адразу некалькі асоб. Быў нават выпадак, калі ён належаў адразу тром чалавекам. А ў 1588 годзе Свержань набывае Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Вёска тады была рачным портам, адкуль на гандлёвых караблях везлі ў замежныя краіны айчынны тавар. Але са з'яўленнем чыгункі роля Свержаня як порта значна зменшылася, замак прыйшоў ў заняпад.

Але вернемся на сучасную плошчу ў вёсцы. З аднаго яе боку размешчаны Петрапаўлаўскі касцёл. Да нядаўняга часу ён быў сапраўдный загадкай для архітэктараў. Спачатку лічылася, што храм быў кальвіністцкім зборам, бо пабудаваны ён даволі сціпла і ніякімі ўпрыгожаннямі як звонку, так і ўнутры не вылучаецца. Але па дакументах XVIII стагоддзя вучоныя нарэшце высветлілі, што храм быў ад пачатку каталіцкім. Пра гэта ўскосна сведчыць і тое, што пабудаваны ён быў у 1588 годзе па загадзе Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, які быў каталікам, і тое, што ў храме ёсць апсіда і вежа-званіца.

Крыху далей стаіць такая ж белая, як і касцёл, царква Ушэсця. Ад пачатку свайго існавання з 1590 года яна была уніяцкай. У 1728 –1733 гадах каля яе быў заснаваны кляштар базыльян, у якім жылі 12 манахаў-настаўнікаў. Па нейкіх прычынах ім не дасылалі грошы за вучобу, і таму манахам прыходзілася цяжка. Да 1830 года засталіся толькі два манахі, і кляштар быў зачынены. У гады савецкай улады царква, як і іншыя храмы на нашай зямлі, была зачынена, але ў 1990 годзе зноў аднавіла сваю дзейнасць.

Існуе таксама цікавая гісторыя пра абраз Маці Божай Навасвержаньскай. Яна прыкладна ў 1500 годзе аб'явілася пастушкам, і паводле гэтага быў напісаны абраз. Дзякуючы шчырай малітве і заступніцтву Марыі, каля гэтага абраза адбылося шмат цудаў, і існавала нават кніга, у якой людзі давалі свае сведчанні пра тыя цудоўныя рэчы, што адбыліся з імі ці іх сваякамі каля іконы. Але, на жаль, калі царкву зачынілі, абраз згубіўся.

Сумна, але ў Свержані наша вандроўка скончылася. Едучы ў аўтобусе ў родны Мінск, я шмат аб чым думала, зноў перажывала ўражанні ад новых мясцін, успамінаючы іх, прыгадваючы цікавыя расказы юнакоў і дзяўчат з "Дыяруша". Пад цёмнай коўдрай вечара думалася пра тое, колькі цікавых, маленькіх вёсачак у нашай Беларусі, пра якія шмат хто не ведае, але якія маюць такую цікавую, а часам і хвалюючую гісторыю. Колькі гістарычных імёнаў злучаюць родныя мясціны паміж сабою. Як шмат я атрымала цікавых фактаў з гісторыі вёсак, пра існаванне якіх я раней і не здагадвалася!

Але мае думкі прыпынілі першыя агні Мінска. Мы ўжо амаль што дома. Я дакладна ведаю, што гэта мая далёка не апошняя вандроўка. Яна толькі абудзіла прагу да вывучэння гісторыі роднага краю не за партай, у кабінеце, а побач з сапраўднымі сведкамі тых шматлікіх падзей, што адбываліся ў сівую даўніну на маёй Радзіме. Дарэчы, навошта спяшацца за мяжу у далёкія краіны, калі дакладна не ведаеш яшчэ сваю? Асабіста я вырашыла для сябе пачаць са сваёй Бацькаўшчыны. Тым больш, што зрабіць гэта значна прасцей!

***Ларыса ДАРАШЭНКА, вучаніца 11 класа СШ № 159 г. Мінска***

*Вясковы спорт*

# Па вяроўках...

У вёсцы яшчэ і цяпер, у XXI стагоддзі, не ўсе ўхваляць, многія кінуць рэпліку, пацешацца, калі ты, скажам, будзеш на свежым паветры рабіць гімнастыку, бегаць трушком і г.д. Для загартавання здароўя там ёсць іншы спорт: для мужчын – касьба, нарыхтоўка дроў, а для жанчын – печ ці газавая пліта, двор, грады ці соткі... Але ёсць віды спорту, якія папулярныя і на вёсцы. Яны ў большасці гуртавыя, не "жаночыя". Там мужчына любіць паказаць свае кемлівасць, спрыт, сілу, каб ім залюбавалася жанчына.

У Бераставіцкім раёне папулярная... вяроўка. Лепш сказаць, не простая вяроўка, а тоўстая – канат, гэта значыць перацягванне яго па абодва бакі гуртам мужчын. Хто – каго!..

Мала сказаць, што там любяць канатны спорт, зусім не баючыся нацерці, горш чым ад касы, далоні. Бераставіцкія мужчыны (пакуль што найбольш з "сярэдняга" класа) у гэтай справе дужэйшыя і спрытнейшыя ў краіне. Але спачатку яны перамаглі... самі сябе: крыху раней ушчэнт прайгралі на абласных спаборніцтвах ды не апусцілі галовы, не толькі ўзяліся практыкавацца, але і кінулі выклік самым дужым і спрытным – удальцам з Карэліцкага раёна. Зноў жа не адчаіліся, калі з ходу не ўдалося тых адолець, як і не ўдалося вельмі вызначыцца ў Латвіі, дзе сустрэліся з прызёрамі сусветных першынстваў з Галандыі, Аўстрыі, Германіі. Але і пройгрыш (восьмае месца з дванаццаці) быў не зусім такім, бо глыбей спазналі: перацягванне каната – не проста паказ моцы і ўмельства, гэта – яшчэ і вялікая навука. Тыя ж галандцы ці аўстрыйцы былі зусім не дужэйшыя, але больш знаходлівыя. За кошт тэхнікі яны не бралі на "ўра", на "раз-два – узялі!" Ведалі, як нагу правільна паставіць, як і калі ўсім разам цягнуць. Жаданне вучыцца ў гэтай справе падмацоўваецца яшчэ і тым, што ёсць кім аднавіць ці папоўніць склад каманды, а па-другое, не трэба ж траты вялікіх сродкаў, як на іншых спартсменаў, якія літаральна залатыя, але не заўсёды заваёўваюць золата.

Перацягванне каната становіцца не толькі папулярным нават сярод сем'яў у Бераставіцкім раёне, але і абавязковым на раённых спаборніцтвах, што, зарзумела, можна толькі вітаць, бо і гэта спрыяе мужчынам весці здаровы лад жыцця, гартаваць здароўе, фізічную сілу, стойкі характар. У Бераставіцкім раёне развіваюцца і іншыя віды спорту, пачынаючы з дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Дзейнічае школа па конным спорце ў сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве імя Варанецкага (там ёсць і басейн, якім работнікі могуць карыстацца бясплатна), дзіцяча-юнацкая школа па вольнай барацьбе. Яе навучэнцы – лепшыя ў вобласці, хоць гэты від спорту развіваецца і ў Ваўкавыску, Лідзе, Гродне; некаторыя выпускнікі – чэмпіёны Беларусі, выступалі на чэмпіянатах Еўропы і свету.

Што яшчэ да каната, то яго бераставіцкія прыхільнікі летась у Кіеве на Гульнях працоўных СНД занялі пачэснае другое месца. Як кажуць, спартсмены – ёсць!





# Традыцыйная культура

## як фактар захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў

*(Заканчэнне. Пачатак у № 5.)*

Шырокую павагу, зайздросную далучанасць тагачасных шараговых беларусаў да сваіх духоўных традыцый вельмі высока ацаніў акадэмік Яўхім Карскі: «Здавалася, мясцовай мове быў пакладзены канец: галоўны сродак выражэння народнага духу быў адабраны...

Але... у тыя часы мала звярталі ўвагі на просты народ, які гібеў у цемры невуцтва і жывіў сваё духоўнае жыццё толькі вуснай паэзіяй. А ён жа і быў корань і аснова беларускай народнасці, ён і аказаўся галоўным захавальнікам жывой мовы: у ім вольна і незасмечана цякла крыніца жывой вады, якая не высахла і да нашага часу»[1].

Не паклапаціўся пра развіццё беларускай нацыянальнай прафесійнай культуры і царскі ўрад, бо лічыў, што на зямлі нашай Бацькаўшчыны спрадвеку жылі і жывуць толькі рускія, таму і культура іх павінна панаваць тут, усяляк выцясняючы польскую. І сапраўды, такое адбылося на вышэйшых паверхах духоўнага жыцця Беларусі. Непрыступнай цытадэллю для царскай палітыкі русіфікацыі засталася толькі беларуская традыцыйная культура.

Упартую барацьбу з беларускімі народнымі культурнымі традыцыямі вяла савецкая сістэма, галоўнай мэтай якой з'яўлялася пабудова безнацыянальнага камуністычнага грамадства. Страты прычынены велізарныя беларускай традыцыйнай культуры. Аднак яна не згінула і захавала здольнасць да рэгенерацыі, што мы мелі магчымасць назіраць яшчэ нават да распаду СССР.

Пры ўсёй маёй павазе да традыцыйнай культуры лічу, што гэта не той магутны і дзейсны сродак, які можа сёння і ў будучым забяспечыць беларусам прыстойнае месца ў цывілізаваным свеце. Такое падуладна толькі нацыянальным прафесійным пластам культуры. Але, на вялікі жаль, яны ў нас не з'яўляюцца нацыянальнымі ўжо на працягу больш за тры стагоддзі, паколькі развіваліся і развіваюцца не на беларускай мове, за выключэннем мастацкай літаратуры, двух–трох сучасных дзяржаўных тэатраў. Аднак ролі гэтых двух фактараў ніяк нельга перабольшваць, улічваючы, на якую невялікую колькасць людзей яны робяць свае ўздзеянне.

Сёння ніхто не можа сказаць, якія ў бліжэйшым часе будуць моўныя асновы прэстыжных пластоў культуры Беларусі. Спадзявацца на лёгкае ўвядзенне тут мовы беларускай вельмі праблематычна, бо сярод дзеячаў культуры носьбітаў рускай мовы ў дзесяткі разоў больш, чым тых, хто карыстаецца родным словам тытульнай нацыі краіны. Справа дайшла да таго, што практычна з абсалютнай большасцю зусім не шараговых у сферы культуры людзей работнікам сродкаў масавай інфармацыі даводзіцца падчас перадач весці дыялог па-руску, каб толькі публічна не засведчыць іх беларускамоўную непісьменнасць. Пакуль у прэстыжных сферах культуры не адбудзецца карэннай моўнай трансфармацыі на карысць беларускага нацыянальнага фактару, датуль яны будуць не ўмацоўваць, а падрываць прыродны духоўны патэнцыял нашага народа. Вось чаму так важна нам і надалей не толькі захоўваць, але і развіваць, рабіць больш масавай на вёсцы і ў гарадах традыцыйную беларускую культуру, бо пакуль што толькі яна, а не прафесійная культура, з'яўляецца адлюстраваннем беларускай этнакультурнай самабытнасці. Калі ледзь не ўсе дзеянні прафесійнай культуры спрыялі і спрыяюць таму, што свет практычна поўнасцю атаясамляе беларусаў з рускімі, дык традыцыйная культура, наадварот, засцерагае ад такой этнічнай падгонкі першых пад другіх, садзейнічае сцвярджэнню беларусаў у якасці самабытнага этнасу ў славянскай супольнасці народаў. Пры захаванні сваёй самабытнасці праз развіццё традыцыйнай культуры беларусы гэтым самым будуць садзейнічаць яшчэ большай разнастайнасці культурнай палітры планеты Зямля, што вельмі важна ва ўмовах нарастання працэсаў глабалізацыі. А вось рускамоўная культура Беларусі не ў стане станоўча паўплываць на разнастайнасць духоўнага жыцця сусветнай цывілізацыі, паколькі не ўносіць у яго аніякіх элементаў беларускай нацыянальнай культуры. Рускамоўная культура Беларусі толькі папаўняе ў духоўным жыцці сусветнай цывілізацыі элементы рускай нацыянальнай культуры, з чым паспяхова спраўляецца сама Расія. Таму не толькі ў інтарэсах Беларусі, але і ўсяго цывілізаванага свету, каб яе прафесійная культура як мага хутчэй стала развівацца на сваёй прыроднай моўнай аснове, як гэта спрадвеку характэрна для нашай традыцыйнай культуры. Усе цывілізаваныя краіны свету ў адкрытую надаюць прыярытэт нацыянальнай моўнай аснове прафесійнай культуры, і таму нам, беларусам, не варта адступаць ад гэтай разумнай практыкі, тым больш, калі жывём у суверэннай краіне, з'яўляемся самастойнымі вяршыцелямі ўласнага лёсу.

*Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар*

[1] *Карский Е. Ф.* Белорусы. Т. III. Ч. 3. Пг., 1922. С. 3.

# Слова пра БССР

*Гісторыка-літаратурнае эсэ*

*(Працяг. Пачатак у № 5.)*

Жылуновіч будзе пісаць: «Увесь час, са дня расейскай рэвалюцыі, беларускае пытанне нядбайна прапушчаецца між пальцаў... баяцца дакрануцца да яго і знарочыста ці забыўна адвarочваюцца і ад думкі, той, што ёсцека Беларусь... Усе патугі звярнуць на гэта ўвагу каго належыць (ківок Сталіну? – Г.Д.) разбіваюцца ў дробкі... чым далей, тым болей расце такая сумыслая варожасць да яго ў кіруючых колах», «ніякіх крокаў, к таму ж т.т. з Заходняе Камуны – з Беларусьсю чаўпецца нешта сапраўды страшнае, а грозіць ёй яшчэ страшнейшае...»

Жылуновіч перасцерагае: як толькі Беларусь пакінуць немцы, заручыўшыся міжнароднай падтрымкаю, правы на яе прад'явяць польскія шавіністычныя колы. «І праз гэткія парадкі, – б'е ў звон, – дзесяцімільённы беларускі народ можа быць ахвяраваным на падмацаванне буржуазіі, на шкоду Расейскай Рэвалюцыі. Якімі ж вачыма мы тады, дачакаўшыся гэтага, паглядзім у вочы гарацешнаму беларускаму працаўніку? Што ён з нашай часткаю віны, падняпадшы ў прыгон, скажа нам? Пэўна – не падзякуе!» Гэтая перасцярога «беларуса-камуніста», пакажа час, не была надуманая, нават ужо з-за таго, што «народны» ўрад Польшчы, «начальнік дзяржавы» Ю. Пілсудскі і «паляк з беларускім сэрцам» Доўбар-Мусніцкі запратэставалі супраць прыходу Чырвонай Арміі на Беларусь, а самі захапілі Брэст, падышлі да Баранавічаў, – гатовы былі рушыць ажно да Смаленска, гэта значыць па межы Рэчы Паспалітай 1772 года...

Ну, а што БНР у Мінску? Пры ўсіх цяжкасцях, крызісах, ператрусках яна не толькі ацалела, але і працягвала амацоўвацца, у тым ліку і заканадаўча. 11 кастрычніка 1918-га яе Рада зацвердзіла ўжо Часовую Канстытуцыю. Але прадчуваючы, а пасля і назіраючы эвакуацыю дэмаралізаваных ад зацяжной вайны і паражэння на Заходнім фронце нямецкіх войск, новы яе ўрад на чале з А. Луцкевічам не мог не бачыць небяспекі як ад асмялелых і завідушчых на «ўсходнія крэсы» польскіх легіёнаў, так і ад Чырвонай Арміі, мяснікоўцаў, якія прагнулі рэваншу, а то і рыўка ў Еўропу. Каб захаваць БНР, якая к гэтаму часу набыла ўсе рысы **беларускай дзяржавы** (пад яе крыло пагарнуліся нацыянальныя меншасці, многія палітычныя партыі), А. Луцкевіч патайна прабіраецца ў Маскву, перамаўляецца з Ц. Гартным, і ёсць ускосныя звесткі, што праз таго мае сустрэчу з Леніным, дзе прапануе кампраміс: мы – з Расіяй, мы прызнаем Савецкую канстытуцыю, а вы прызнайце БНР. Гэтую прапанову адхілілі. У бальшавікоў быў свой, толькі ім патрэбны і выгадны варыянт.

Напружанне вакол лёсу Беларусі нарастае. 25 лістапада «Дзянніца» змяшчае «Ліст да Беларускага народу», праз які «твой сын Змітро» – Жылуновіч – заклікае ўвесь родны люд і ў гэты цяжкі, лёсаносны час праявіць цвярозасць, вытрымку, не паддавацца на розныя шматабяцанкі чужых і сваіх паноў, чакаць падмогі ад Расіі – праўда, у «Лісце» зазначаецца, што помач будзе не проста ад Расіі, а ад новай Расіі, якую цяпер, зразумела, прадстаўлялі бальшавікі і Саветы.

У снежні, калі немцы, а з імі і бэнэраўцы пачалі пакаваць валізы і клункі, у Мінску падпольны раённы камітэт РКП(б) утварае свае падпольныя органы ўлады – Мінскі Савет і губрэўкам, што было своеасаблівай альтэрнатывай мяснікоўцам, а з другога боку, гатоўнасцю супрацоўнічаць з Жылуновічам (ад яго былі тут пасланцы). У гэтай сувязі неабходна падкрэсліць адзін вельмі важны момант: амаль усе, хто ўтвараў і БНР, і БССР, былі разагнаны (выжыў той, хто выбраўся за мяжу), а пры сталінізме знішчаны. З уплывовых сведак тых падзей нейкім чынам ацалеў менавіта тагачасны лідэр вышэйназванага падпольнага Мінскага раённага камітэта РКП(б). Пад псеўданімам Бампі ён жыў (за межамі Беларусі) яшчэ ў 50-я гады, займаўся навукай, пісаў успаміны. На жаль, я не чытаў іх, дык не ведаю, наколькі яны шчырыя. А той Бампі мог падрабязна расказаць, скажам, пра тое, як ён і ягоныя калегі дзейнічалі, як слалі тэлеграмы «о необходимом самоопределении трудящихся Белоруссии и Литвы, создании Белорусско-Литовской трудовой коммуны на федеративной связи с Советроссией», чым літаральна разлютавалі Мяснікова, які сваёй тэлеграмай Свярдлову думку мінскіх «местных работников» «о так называемой Белоруссии» лічыў усяго толькі «частным мнением», а крыху пазней, 21 снежня, у смаленскай «Западной коммуне» загучыць абурэнне ўжо супраць Масквы: «Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Провозглашение Советской республики Белоруссии не только не служило бы интересам борьбы с националистическими тенденциями мелкой буржуазии, но как раз развивало бы простор этим тенденциям... То, что мы признаем допустимым в одном месте в силу тактических соображений, не должно быть перенесено в другие места, где таковых практических соображений нет и не может быть...»

Мяснікоў дацiскае – ВЦВК зацвярджае вывады Адміністрацыйнай камісіі, і Беларусь юрыдычна становіцца Заходняй вобласцю. Жылуновіч – а ён ужо і камісар Белнацкама – выказвае Сталіну, іншым рашучы пратэст гэтай пастанове і заяўляе, што пры такіх адносінах да Беларусі не можа далей быць пры Савецкім урадзе, па згодзе беларускіх камуністычных секцый дае кліч: «Беларусы – дахаты!», заклікае там, дома, разам з мясцовымі камуністамі, свядомымі людзьмі самім утварыць урад. Сталін тут жа паведаміць пра гэты «ультыматум» ці «шантаж» Свярдлову, той – Леніну. Хто ведае, якія былі тыя размовы, але 25 снежня кіруючае ядро Белнацкама і ЦБ беларускіх камуністычных секцый запросяць да Сталіна, і той, паінтрыгаваўшы, суцешыць: будзе вам Савецкая Беларусь, і дэманстратыўна возмецца «обуздывать товарища Мясникова, который, как и некоторые другие большевики-нацмены, ведет себя порой неадекватно». Мяснікоў, зразумела, не плешча ў ладкі ад такога павароту, не хоча ехаць у Маскву ды яшчэ на перамовы з ненавісным яму Белнацкамам, спасылаецца, што ён рыхтуе на канец снежня 6-ю Паўночна-Заходнюю абласную канферэнцыю РКП(б), чуць не хоча ні пра якую Беларусь. Сталін гуляе: калі хочаш, каб цябе беларусы «приняли», то едзь, «а они, считаем мы, не откажутся от нужных, авторитетных людей из твоего обкома и облисполкомзапа... Короче, рекомендуй **своих толковых** людей в Компартию и правительство Белоруссии... Об **остальном** поговорим здесь...» (Выдзеленыя словы і словы ў двукоссі з майго рамана «Свой дом». Яны – на аснове вывучэння мноства мемуараў. – Г.Д.).

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*(Працяг будзе.)*




*Зм. Жылуновіч (Ц. Гартны). 1918 г.*

### З нядаўняй гісторыі

#### 1 лютага 1922 года

Тады яшчэ не быў утвораны СССР, усе народы і народнасці не аб'ядналыя ў адну сям'ю, гэта значыць не ўзяты пад моцны адзін каркас, яшчэ працягваліся пэўныя вольнасці. Да слова, у вышэйпазначаны дзень у Мінску адмянілі каменданцкія абмежаванні, што былі пры розных уладах больш за чатыры гады, пропускі і дазволілі хадзіць па горадзе і пасля гадзіны ночы. Да гэтага часу часта здаралася трагічнае: бывала, ноччу патрулі стралялі па прахожых і забівалі іх. Сярод загінулых быў самы розны люд, у тым ліку і не зусім асцярожны.

#### 5 лютага 1926 года

З'явілася пастанова Прэзідыума ЦВК БССР пра газету «Савецкая Беларусь». З таго дня ўсе ўстановы і арганізацыі павінны былі выпісваць гэтае выданне, якое своечасова публікавала ўсе дэкрэты і распараджэнні ўрада.

Тады газеты «Звезда» выходзіла на рускай і беларускай мовах, з 1927 года на беларускай, а «Савецкая Беларусь» на беларускай мове выходзіла з 1920-га да 21 сакавіка 1933-га года.





# Упершыню ў літаратуры

15 жніўня 1840 года ў Горках была адкрыта земляробчая школа,ператвораная ў 1848 годзе ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут – першую ў Расіі вышэйшую сельскагаспадарчую навучальную ўстанову.

У 1857 годзе аб гэтай навучальнай установе шырока стала вядома з літаратурнага твора рускага пісьменніка Паўла Іванавіча Мельнікава – апавядання «Поярков», якое ўпершыню было надрукавана ў часопісе «Русский вестник».

П. І. Мельнікаў, вядомы пад літаратурным псеўданімам Андрэй Пячэрскі, нарадзіўся 25 кастрычніка 1818 года ў Ніжнім Ноўгарадзе. Скончыў гімназію і славесны факультэт Казанскага універсітэта. Затым настаўнічаў у Пермскай і Ніжагародскай гімназіях. Выкладаў славеснасць, пачаў пісаць апавяданні. Першае з іх «Дорожные знаки» было надрукавана ў часопісе «Отечественные записки» у 1839 годзе.

У 1847 годзе ў лёсе Мельнікава адбыліся рэзкія змены. Ён стаў чыноўнікам па асаблівых даручэннях пры губернатары Ніжняга Ноўгарада. Служба дазваляла яму ўважліва прыглядзецца да дзейнасці чыноўнікаў, зразумець, чаму так шмат ліхвяроў, казнакрадаў, кар'ерыстаў і хабарнікаў. Вось такога чыноўніка і апісвае П. І. Мельнікаў у апавяданні «Поярков».

Яно пачынаецца апавяданнем аўтара аб тым, як на вялікай гандлёвай дарозе яму сустрэўся стары ў паношаным сурдуце з кайстрай за плячыма. Старога падвезлі, і ён расказаў, што служыў больш дзесяці гадоў приставам і затым быў «отстранен от должности».

Былы прыстаў шчыра прызнаўся ў тым, што браў у сялян хабар, займаўся вымаганнем. Аднойчы, калі яму былі вельмі патрэбны грошы, ён разбіраў пошту з губерніі. «Дзесятка паўтара прачытаў, – успамінаў ён, – нічагусенькі... Раптам гляджу – міласць то божая! У цыркуляра збоку прапячатана: «Аб аддачы малалетніх сялянскіх дзяцей ў Горы-Горацкую школу Магілёўскай губерні». Э!... Не штука – грошы, штука выдумка!... Вось яна, боская ласка, дзе! З месца нават ускочыў, запеў ад радасці: «Заўтра пачуй голас мой!». (П. И. Мельников. Рассказы и повести. М., 1983. С.68).

Далей прыстаў апавядаў аб тым, як з гэтым цыркулярам стаў аб'язджаць багатых мужыкоў. Растлумачваючы размяшчэнне і назначэнне школы, ён гаварыў, што гэта губерня за Сібір'ю, на самым краі свету. І ўся яна на магілах. А на тых магілах гара, і на той гары школу завялі... Сялянскіх дзетак там усякаму гору навучаюць. А таму і названа «на горы Горацкая школа».

Сяляне палохаліся, і хто мог, адкупаўся грашыма. За кожнага хлопчыка давалі па залаценькаму. А прыстаў пісаў, што яны глухія і нямыя.

Зразумелым зараз становіцца той факт, чаму ў першы набор у Горы-Горацкую земляробчую школу паступіла усяго сем чалавек. І цікава, што сярод прынятых не было ніводнага хлопчыка з Ніжагародскай губерні. Прысланыя з сялянскіх сямей дзеці былі апрануты так бедна, што іх нават нельга было дапусціць на ўрачыстае адкрыццё школы.

Але ж адкуль П. І. Мельнікаў ведаў аб царскім цыркуляры, у якім гаварылася аб тым, каб пасылалі сялянскіх дзяцей у Горы-Горацкую земляробчую школу? Зразумела, што калі служыў чыноўнікам пры генерал-губернатары ў Ніжнім Ноўгарадзе. Вельмі магчыма, што ў час службы Мельнікаў сустракаўся і з прататыпам галоўнага героя нарыса прыставам Паярковым.

Тым не менш, апавяданне «Поярков» – першы мастацкі твор, дзе згадваецца Горы-Горацкая земляробчая школа, і ён лічыцца лепшым у творчасці Мельнікава. «Поярков» па свайму накірунку, – пісаў М. Г. Чарнышэўскі, – падобен да апавяданняў п. Шчадрына, але гэта не перайманне... Пячэрскі па ўсёй справядлівасці павінен быць прылічаны да самых таленавітых нашых расказчыкаў». (Чернышевский Н. Г. Полн. соб. соч. М., 1978. Т.4. С.736).

*Уладзімір ЛІЎШЫЦ*

**Поспех**

## «Зоркі Амура» ў Хабараўску

«Зоркі Амура» – так называецца конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзіцца ў вышэйназваным прыморскім горадзе. За мінулыя 9 тураў конкурсу ў ім прынялі ўдзел звыш 20 тысяч здольных дзяцей, юнакоў і дзяўчат, маладых людзей да 30 гадоў.

Летась там адбыўся X Далёкаўсходні конкурс і адным з членаў журы быў кіраўнік беларускага ансамбля «Сябры» А. Ярмоленка. Ён быў там не адзін, а са сваім калектывам, які даў некалькі канцэртаў і які горача віталі шматлікія гледачы і слухачы.

Дасягнута дамоўленасць, што сёлета ансамбль «Сябры» прыедзе на Далёкі Усход з вялікай канцэртнай праграмай.

# Беларуская народна-абрадавая харэаграфія Чарнобыльскага рэгіёна

***Унікальная традыцыйная культура беларускага народа, яе самабытнасць і непаўторнасць яскрава сведчаць аб багатай культурнай спадчыне продкаў, арыгінальнасці іх абрадаў, звычаяў, традыцый. Кожнае фальклорнае дзеянне, кожны абрад, кожнае свята ўяўляе сабой сінтэз розных мастацкіх накірункаў – песні, музыкі, слова, танца.***

Зварот да жыватворных вытокаў народнай мудрасці (фальклору) дазваляе гаварыць пра перспектыўнасць працэсу фалькларызацыі культуры ў цэлым. Гэты феномен існавання цывілізацыі ў пачатку новага стагоддзя і тысячагоддзя надзвычай важны ў плане захавання нацыянальнай самабытнасці, нацыянальнай свядомасці, аўтаномных і аўтэнтычных нацыянальных культур.

Нацыянальная культура Беларусі бярэ свой пачатак з даўніны, яшчэ ад самага з'яўлення чалавека на зямлі. Тады з'явіўся яго рух як галоўнейшая неабходнасць існавання, і ад яго ўжо нядоўга заставалася да руху магічнага, абрадавага, танцавальнага. Рухамі, тэкстамі, імітацыяй чалавек выказваў той ці іншы стан, з'яву прыроды і жывёльнага свету, земляробчага працэсу, расліннага асяроддзя. Не было яшчэ слова, але быў рух, і не зусім дакладна было сказана ў Бібліі, што «спачатку было слова»...

Рух, якім размаўляў чалавек з другім чалавекам і з прыродай, перадаваў не толькі рабочы і творчы працэс, але і эмацыянальнасць, стан душы, пэўны настрой, радасць і смутак.

Ад нараджэння чалавека і да самага яго пахавання ўсё было звязана з рухомымі дзеяннямі. Збіраючыся на паляванне, паляўнічыя імітавалі жэстамі рук, ног, галавы гатоўнасць, ахвоту да работы, а таксама выконвалі магічныя рухі. Зусім іншыя жэсты і рухі былі, калі вярталіся з палявання са здабычай. Жанчыны спецыяльнымі жэстамі імітавалі працэс сяўбы, апрацоўкі зямлі, збору ўраджаю. Такім чынам зараджаліся спачатку рухі паўсядзённага жыцця, якія затым вызначылі танцавальныя рухі, малюнкі. На гэтай аснове з цягам часу ўзнікалі і танцы.

Танец як сродак выражэння эмацыянальна-псіхалагічнай і этычнай народнай натуры займае асаблівае і важнае месца ў беларускім фальклорным дзействе. У кожным абрадзе, святочным дзеянні існуе своеасаблівы характар танца: дынамічна-вясёлы, жартоўна-заліхвацкі, гульнёвы, лірычны – у кожным свая непаўторнасць. Як у песенным слове раскрываецца нейкі малюнак жыцця, так у паэзіі народнага танца ажывае прыродная з'ява ці нейкі міфалагічны персанаж («Каза», «Зайчык», «Жабка», «Зязюлька», «Паўлін», «Верабей», «Селезень», «Перапёлачка», «Мядзведзь», «Бычок», «Журавель»), што ўласціва і этнакультуры Чарнобыльскай зоны. Потым, калі чалавек пачаў абрабляць зямлю, сеяць, збіраць ураджай, з'яўляюцца танцы земляробчага працэсу, дамінантай якіх былі адносіны чалавека да галоўнага багацця – зямлі. Асобнае месца ў іх займаў харэаграфічны жанр з каляндарна-земляробчай і сямейна-бытавой абраднасцю, з традыцыямі першабытнага сінкрэтызму. Паказальным у гэтым плане быў карагод, дзе арганічна злітыя харэаграфічныя рухі, малюнкі з гульнёвым дзеяннем і песнямі. Увогуле карагоды вадзілі толькі ў суправаджэнні песні. Фалькларысты, этнографы доўгі час, на жаль, звярталі ўвагу толькі на вербальны кампанент карагоду, недаацэньваючы адзінства лірычна-карагоднай харэаграфіі і песні.

Для паўднёвага ўсходу Беларусі, асабліва Хойніцкага, Брагінскага, Веткаўскага раёнаў Гомельскай вобласці, характэрныя наступныя абрадавыя карагоды: «Куст», «Страла», «Стрэчанне», «Падушачка», «Млынок», «Ой, вясна- вяснулечка», «Зборная субота» і шэраг іншых.

Розныя віды чалавечай працы ўзнаўляюцца сродкамі багатай і шматстайнай харэаграфічнай мовы: рухам, імітацыяй, жэстам, якія выразна маркіраваны характарам дзейнасці герояў танцаў – «Цапы», «Кузняцы», «Мельнік», «Пастухі», «Касар», «Шаўцы», «Краўцы», «Пекар», «Кашалі». Трэба падкрэсліць, што, як і ў іншых народна-абрадавых творах, яскравая танцавальная палітра «працуе» тут не на банальную ілюстрацыю, а на стварэнне каларытных, адметных мастацкіх вобразаў і народных тыпаў, арганічна звязаных з жыццём і прыродай.

Народнае харэаграфічна-абрадавае дзейства на тэрыторыі рэгіёна няўхільна ўзбагачалася за кошт новых жанравых форм, іх элементаў, зіхацела досціпам скокаў, пераплясаў, хуткіх вясельных танцаў (хто каго ператанцуе). Традыцыі даўняй «Лявоніхі» загучалі ў так званых «іменных» (па імені галоўнага персанажа) танцах: «Мікіта», «Халімон», «Хвалько» і інш.

Своеасаблівай і распаўсюджанай амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі сталася кадрыля – танец з непаўторным тэмпераментам, спецыфічным харэаграфічным «вядзеннем тэмы», з выяўленай драматургіяй, якая ўключае ў сябе займальны, вясёлы сюжэт. Кадрыльныя крокі звычайна простыя, галоўнае тут – кідкасць характараў і яскрава выражаныя адносіны паміж рознымі гуртамі: дзяўчат і хлопцаў, паміж хлопцамі і дзяўчатамі паасобку.

Яшчэ адна адметная рыса кадрылі – цотная колькасць пар выканаўцаў, пары шарэнгавыя, крыжападобныя, абменныя. У кадрылях вызначана паслядоўнасць і колькасць фігур; разнавіднасцяў кадрыляў шмат: лінейныя, касыя, кругавыя і «паўколавыя», «тоўстыя». Арганічна ўвайшлі ў кадрылі характэрныя для беларускага харэаграфічнага фальклору малюнкі, калены, асноўныя хады і нават фрагменты з нацыянальных танцаў, полькі «Лявоніхі» і інш.



*Тэатр фальклору «Бераг белых буслоў», якім кіруе М. Котаў, працуе ў Буда-Кашалёве.*

Этнографы і фалькларысты XIX стагоддзя пісалі, што на Беларусі ледзь не кожная вёска мае сваю кадрылю са сваёй яскравай адмецінай і характарам выканання, рэгіянальнай спецыфікай. Многія кадрылі носяць і сёння так званыя вясковыя назвы: «Тураўская», «Церабяжоўская», «Рамельская», «Верасніцкая», «Хойніцкая», «Брагінская», «Нараўлянская».

Далей ідзе этап полек. Гэты старадаўні чэшскі танец быў у пэўнай ступені блізкі па характары харэаграфічнаму фальклору беларусаў, таму ён стаў адным з самых шырокіх, папулярных на ўсёй Беларусі, узбагаціўшыся і набыўшы мноства арыгінальных выкананняў. Характэрны рух полькі – устрэсванне верхняй часткай корпуса і рук, прытупы, ператупы. Увогуле, полька зрабіла вялікі ўплыў на ўсю нацыянальную харэаграфію.

Беларуская полька набыла большую малюнкавасць, музычную каларытнасць праз перадачу мажорнай настроенасці. Для ўсіх полек абавязковымі з'яўляюцца парныя вярчэнні, якія маюць таксама рэгіянальную асаблівасць выканання: ногі то дробна шліфуюць, то ад калена выкідваюць высока ўгору і прысядаюць, таму так шмат назваў прысвоілі танцу населеныя пункты розных рэгіёнаў Беларусі. Таму і прыгожая полечная разнастайнасць рэгіянальных выбрыкаў і полечных скокаў: «Драбней маку», «Рассыпуха», «Шморгалка», «Запясоцкія скокі», «З прысюдамі», «Тураўская плясавая». Кожны рэгіён, нават раёны на яго тэрыторыі, у фальклоры вынаходзяць сваё спецыфічна-арганічнае выкананне скокаў.

Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя ўтварыліся гарадскія бытавыя танцы, некаторыя з якіх бралі свае вытокі ў вясковай танцавальнай стыхіі, хаця ў аснове сваёй створаны як гарадскія песенныя танцы. Танцуюцца яны лёгка, у гарадскіх бытавых танцах адна структура, адна і тая ж фігура паўтараецца некалькі разоў на працягу ўсёй танцавальнай песні. Іх выконваюць без асаблівай падрыхтоўкі, як і абрадавыя карагоды: парамі, часта з плясканнем у далоні, прыстукамі ў большасці адной нагой, у адрозненне ад полькі, дзе прыстук дзвюма нагамі ідзе на лік «раз», «два», «тры» – тут прытуп толькі на лік «раз».

Вялікі рух і актыўнае адраджэнне фальклорнага танца (у тым ліку і бытавога, які яшчэ называлі бальным) адзначаецца ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. У той час амаль па ўсёй Беларусі, як у вёсцы, так і ў горадзе, з'яўляюцца аматарскія гурты народнай харэаграфіі, студыі, аб'яднанні, школы народнай і бальнай танцавальнай культуры Беларусі. Прафесійныя калектывы ствараюць новыя харэаграфічныя сюіты, кампазіцыі ў гонар і памяць ахвяраў вайны, мужнасці беларускага народа. Мастацтва руху і жэста ўвасабляла жыццё, быт, гераічнасць характару беларуса. На аснове прыгожых бальных танцаў народна-бытавой харэаграфіі створаны дзіцячыя студыі, што мела істотнае значэнне для далейшага росквіту ўсёй харэаграфіі Беларусі. Шмат якія народна-бытавыя танцы ляглі ў аснову бальных: «На рэчаньку», «Свеціць месяц», «Венгерка», «Ойра», «Какетка», «Сямёнаўна», «Дзевачка Надзя», «Лысы», «Страданні», «Падэспань», «Ночка», «Лезгінка», «Карапет», – якія і склалі першапачатковую аснову масавых танцавальных вечароў, зафіксаваных у Чарнобыльскім рэгіёне і распаўсюджаных па ўсёй Беларусі.

Як асобны жанр беларускага танцавальнага фальклору выдзяляліся сольныя танцавальныя імправізацыі, у якіх асаблівы парадак фігур вызначаўся самім выканаўцам, кожны выканаўца асобнымі рухамі выказваў і падкрэсліваў сваё «я», разнастайнымі рухамі і жэстамі выражаў свой настрой і пачуцці. Выканаўчаму майстэрству танцораў з народа ўласціва шчодрая самаадача, захопленасць. Для сольных танцаў характэрна і прыпевачная манера выканання, якая фарміруецца імправізавана, адвольна.

Самабытным старажытным відам народнай творчасці з'яўляецца гульня: гульні масавыя, мужчынскія, жаночыя, парныя, музычныя і немузычныя, з ужываннем розных прадметаў побыту, хуткія і павольныя, жартоўныя. Галоўныя функцыі гульні – забаўляльная і павучальная. Гульні бываюць песенныя, музычныя, танцавальныя, ці інакш, рухомыя.

Танцавальныя гульні таксама звязаны з побытам, вытворчай дзейнасцю людзей, сродкамі пазнання прыроды, асабліва ў дзіцячым асяроддзі; вялікае значэнне мае эстэтычна-творчая і інтэлектуальна-фізічная функцыянальнасць гульні. Гульня выступае і як сродак зносін і забавы дзяцей і падлеткаў.

Народныя гульні вызначаюцца разнастайнасцю форм.

Шматлікія беларускія гульні арнаментаваныя, бо гуляюцца часцей за ўсё на лугавой палянцы, вуліцы, двары, яны рухомыя, з танцавальнымі крокамі. Часта гульні набывалі танцавальны характар.

Танцавальны фальклор паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі спалучаецца з песняй, музыкай, гульнёй. Такі сінтэз дае магчымасць больш поўна адчуць вобразнасць, багацце найвялікшай фальклорнай спадчыны самабытнай культуры Айчыны.

Няма патрэбы яшчэ раз даводзіць, што этнакультура, у тым ліку і народна-абрадавая харэаграфія, Чарнобыльскага рэгіёна знаходзіцца ў крытычным стане і паступова згасае разам з яе носьбітамі. Ёсць настойлівая неабходнасць зноў і зноў – пакуль ёсць час – звяртацца да яе як да чыстай, незамучонай духоўнай крыніцы, ратунку, апірышча чалавека і грамадства ў няпростыя часы глабалізацыі.

***Мікола КОТАЎ,***
***фалькларыст***





## Люты

15 – **Александроўская Ларыса Пампееўна** (1904, Мінск – 1980), спявачка, рэжысёр, грамадскі дзеяч, народная артыстка Беларусі і СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941 г.) – 100 гадоў з дня нараджэння.

16 – **Засліцкі Андрэй Міхайлавіч** (1924), скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974 г.) і Дзяржаўнай прэміі СССР (1977 г.) – 80 гадоў з дня нараджэння.

18 – **Тэадаровіч Мікалай Парфіравіч** (1904–1981), спявак, заслужаны артыст Беларусі – 100 гадоў з дня нараджэння.

22 – **Кольберг Оскар** (1814–1890), польскі фалькларыст, этнограф, кампазітар, збіральнік беларускіх фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве – 190 гадоў з дня нараджэння.

22 – **Нікіціна Аляксандра Пятроўна** (1924), дзеяч самадзейнага мастацтва, хормайстар, заслужаны работнік культуры Беларусі – 80 гадоў з дня нараджэння.

27 – **Радзівіл Ка́раль Станіслаў** (мянушка Пане Каханку; 1734, Нясвіж – 1790), дзяржаўны дзеяч ВКЛ – 270 гадоў з дня нараджэння.

28 – **Гарадоцкі раённы краязнаўчы музей** (1974) – 30 гадоў з часу заснавання (адкрыты 24.12.1976 г.).

29 – **Яленская (па мужу Дмахоўская) Эма** (1864, Петрык. р-н – 1919), фалькларыст, этнограф, польская пісьменніца – 140 гадоў з дня нараджэння.



*Фірма кошыкі пляце!*

# Свавольнікі

*Гумарэска*

Яна нявыдуманая, зусім жыццёвая.

У свой час мне выпала жыць у адным доме з Уладзімірам Бегуном – публіцыстам, гісторыкам, філосафам. Пазнаёміўшыся, часта размаўлялі з ім, у тым ліку і пра тое, што (няпростае, нават небяспечнае) яго хвалявала, што ён добра ведаў і пра што пазней пачаў пісаць – ужо пры Брэжневе і Андропаве.

У "хрушчоўскую адлігу" нам, усяму дому, надакучыла, больш – абрыдла адна рэч. Жылі мы каля старога чыгуначнага вакзала, паблізу быў невялікі заводзік. Дык вось у яго двары на слупе прыляпілі гучнагаварыцель. Што гучны, то гучны. На поўны голас – "пра новы курс партыі", "аб подзвігах на працоўным фронце", "пра новы падзячлівы ліст любімаму і дарагому Мікіту Сяргеевічу", пра "блізкі камунізм", заклік на гімнастыку, музыка. Удзень усё гэта ішло міма вушэй рабочых (яны не зважалі на балабонства, працавалі), нас, насельнікаў дома (мы былі на рабоце ў іншым месцы), але... у шэсць гадзін раніцы – вечавы гімн СССР, усесаюзныя навіны (куды павялі шляхі-дарогі Хрушчова), потым – сціпленькі гімн БССР, мясцовыя весткі, пасля песня-заклік: "На работу!.." Прыйдзеш з працы, павячэраеш, пачытаеш газеты ці кнігу, але не заснеш: у дванаццаць будзе адбой, зноў жа вечавы гімн.

Выбіўся наш дом са звыклай каляіны, клянуць (між сабою) тую "брахалку". Перамовіліся мы з Валодзем пра гэта і пайшлі да дырэктара завода: таварыш, ратуйце, выключыце гэтае сваё радыё. "Не, – кажа, – есть указание. Пропаганда есть пропаганда".

Пакутуем. Угледзелі: вартаўніком – можа, і патрэбны нам чалавек. Маладжавы, поўны сіл, вочкі хітра-жулікаватыя, шчокі чырвоныя – значыць, любіць дзербалызнуць. Мы – да яго. "Хочаш гэта?" – Валодзя пстрыкнуў сябе па шыі. "А што хаціця вы?" – зацікавіўся. Мы яму ўсё па шчырасці. "Не, – матляе галавою, – цэглы, цэменту – пажалуйста, а сапсаваць радзіва – не. – Падняў палец угару. – Паліцыка! Вы былі на зоне? Не? А я быў. Дык не хачу апынуцца па другі бок агароджы".

Апусцілі мы насы: трэба цярпець напасць і далей. Аднаго дня Валодзя прыходзіць да мяне і аж ззяе: эўрыка, прыдумаў, як адвабіць ад радыё дырэктара завода!

Спажываем метад Астапа Бэндэра. Той, каб выбіць з раўнавагі падпольнага багацея Карэйку і выцыганіць ад яго мільён, слаў яму самыя што ні ёсць бязглуздыя тэлеграмы. І даканаў. І мы будзем званіць пасля шасці гадзін раніцы і пераказваць, якія ў свеце і ў нас навіны. Я ўжо і яго хатні тэлефон адкапаў.

Назаўтра ж і звонім: "Товарищ Н.?" – "Да, слушаю", – сонна адказвае той. "Сообщаем вам, что хлеборобы Столинского района начали посевную". "Вы – что? – абураецца той. – Я не имею к сельскому хозяйству никакого отношения". І так – кожную раніцу: "Товарищ Н., сообщаем, что свинарка К. Слуцкого района пообещала в этом году получить от каждой свиноматки по одиннадцать поросят", "Товарищ Н..."

Абураўся, пагражаў, кідаў трубку, падоўгу не браў яе, ды урэшце знік гучнагаварыцель са слупа. Нейкі час я прачынаўся без хвіліны ў шэсць гадзін раніцы, не мог сплюшчыць вачэй да апоўначы, а потым, як і Валодзя, і іншыя, зноў прызвычаіўся да свайго: устану, лягу тады, калі трэба.

*Генадзь ДОЙЛІД*

*Постаці. Юбілеі*

## Са шчырых энтузіястаў

Сярод іх – Янка Шутовіч, які нарадзіўся 11 студзеня 1904 года ў в. Шутавічы Смаргонскага раёна і якому сёлета споўнілася б 100 гадоў. У 1933 годзе скончыў Віленскі універсітэт, працаваў у розных асветна-грамадскіх заходнебеларускіх суполках, установах, у Беларускім музеі ў Вільні. Гэты музей адкрыўся ў 1921 годзе ў Вільні на аснове прыватнай калекцыі беларускага этнографа і археолага Івана Луцкевіча, дзе былі 5 экспазіцыйных залаў, архіў і бібліятэка (больш за 14 тысяч тамоў), калекцыі – археалагічная, сфарагістычная, нумізматычная, медалёў і крыжоў, слуцкіх паясоў, дываноў, беларускіх народных музычных інструментаў, творы народных разьбяроў, старажытнай зброі, рукапісных кніг і старадрукаў. У 1945 годзе музей быў закрыты, большасць збораў перайшлі ва ўласнасць літоўскіх музеяў і бібліятэк.

У 1935–1939 гадах Янка Шутовіч – рэдактар-выдавец літаратурна-навуковага часопіса "Калоссе", дзе друкаваліся артыкулы па гісторыі і культуры Беларусі, беларускай мове і літаратуры, краязнаўстве. Аўтарам дазвалялася выказваць розны спектр думак, за што пазней Я. Шутовіча папракалі ў ідэйных супярэчнасцях, "буржуазна-нацыяналістычных акцэнтах", хоць там рашуча выкрэслівалася ідэалогія нацыянал-фашызму. У часопісе друкаваліся М. Танк, М. Васілёк, М. Машара, В. Таўлай, А. Іверс і інш., знаёмілі з творчасцю беларускіх савецкіх пісьменнікаў, змяшчаліся артыкулы пра пісьменнікаў іншых народаў свету – Ш. Руставелі, Т. Шаўчэнку і г.д.

Я. Шутовіч у пасляваенны нялёгкі для яго час дачыніўся яшчэ да адной высакароднай справы: ён у Вільні знайшоў рукапіс рамана-хронікі "Віленскія камунары" Максіма Гарэцкага і, хоць імя аўтара ў БССР было забароненае, перадрукаваў на машынцы гэты твор (як успаміналі сведкі, друкаваць добра не ўмеў, стукаў па клавішах адным пальцам!) і зберог яго для знакамітага роду Гарэцкіх, для беларускай літаратуры.

З рознымі агаворкамі ўсё ж прызнаны ў БССР (ёсць пра яго, Беларускі віленскі музей, часопіс "Калоссе" кароценькія звесткі ў энцыклапедыях). Янка Шутовіч памёр напрыканцы 1973 года.

*Марыя НЯМКЕВІЧ*

*Моваю ліч...*

Як стала вядома, летась у Беларусі 1400 чалавек набылі кандыдацкія і доктарскія ступені (было адмоўлена ў гэтым 6 прэтэндэнтам на доктара і 15-ці – на кандыдатаў навук). Усяго цяпер у нас каля 18 тысяч дактароў і кандыдатаў навук. Гэта пры тым, што пасля заканчэння аспірантуры абараняецца менш 10 %.

Цяпер у гэтай справе намечаны рэформы: у прыватнасці, каб трапіць у аспіранутру, патрэбна будзе адзін год пабыць магістрам, значыць навучанне будзе двухступенчатае, вучыцца прыйдзецца ўжо не тры, а чатыры гады.

З аднаго боку, вышэйназваная лічба ў 18 тысяч уяўляецца вялікай, многія ўладальнікі аступененых дыпломаў незапатрабаваныя, а з другога, зазначаюць у Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, у некаторых сферах людзей са ступенямі яшчэ мала (напрыклад, на прадпрыемстве "Інтэграл" 25 такіх чалавек, а трэба, на іх думку, 250 – 300). Новая рэформа прадугледжвае "не працаваць на ўвесь свет" (штогод краіну пакідаюць 50 –70 вучоных), а на краіну і на "рэзультаты".

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Арсень** (Арсеній, старац; ? – 1681) – разьбяр па дрэве XVII стагоддзя. Майстар беларускай разьбы. Манах Аршанскага Куцеінскага манастыра. Пасля 1655 года працаваў у майстэрні разьбы па дрэве Іверскага манастыра на Валдаі, магчыма, удзельнічаў у стварэнні разных уваходных дзвярэй сабора гэтага манастыра. Пазней браў удзел у аздабленні Васкрасенскага сабора Новаіерусалімскага манастыра (г. Істра Маскоўскай вобласці). У 1667-м пераведзены ў Аружэйную палату Маскоўскага Крамля, дзе ўзначаліў цэх разьбяроў. Кіраваў работай па аздабленні (драўляная разьба) палаца ў Каломенскім (зараз у межах Масквы, 1667 – 1668). Стварыў "іарданскую сень" на 4 калонках для Суздаля (1668, цяпер – у саборы Нараджэння Багародзіцы ў Суздалі).

**Артыкуляцыя** (ад лац. расчляняю) – а) дзеянне органаў мовы (губ, языка, мяккага паднябення, галасавых звязак), з якімі ўтвараюцца гукі мовы, артыкуляцыйная база. Безакцэнтнае вымаўленне слоў чужой мовы патрабуе яе засваення. Ёй, артыкуляцыйнай базе, уласціва перавага артыкуляцый з высокім становішчам языка, паслабленне дзеяння кончыка языка пры вымаўленні мяккіх зычных, ад чаго яны робяцца мякчэйшыя, чым, напрыклад, адпаведныя рускамоўныя гукі. Спецыфічна беларускія асаблівасці – губна-губная артыкуляцыя пры вымаўленні "ў", працяжнае вымаўленне "ч", змычна-шчылінная артыкуляцыя пры вымаўленні "дж" і інш; б) ступень выразнасці вымаўлення. Па ёй ацэньваецца якасць вымаўлення асобных людзей, што важна пры адборы дыктараў для радыё і тэлебачання, акцёраў, чытальнікаў і інш. Выразная артыкуляцыя неабходна пры выкананні драматычных, вакальных, харавых і іншых твораў, у мастацкім чытанні. З ёй звязана мілагучнасць мовы, да якой імкнуцца творцы, асабліва да тых літаратурных тэкстаў, якія выконваюцца ўголас.

**Арфа** (ад стараням. агра) – струнны шчыпковы музычны інструмент. Сучасная арфа – вялікая драўляная рама трохкутняй формы з адным выгнутым бокам, унутры якой па вертыкалі нацягнуты струны рознай даўжыні і настройкі. Пры дапамозе 7 педалей арфа перастройваецца ва ўсе мажорныя і мінорныя танальнасці. Ужываецца як сольны, ансамблевы і аркестровы інструмент.

Арфа з'яўляецца адным са старэйшых музычных інструментаў, найбольш ранніх яе выявы вядомы з III тысячагоддзя да нашай эры. З XVI стагоддзя назва арфа ўпамінаецца і ў Беларусі ў рэлігійных і свецкіх літаратурных помніках. У другой палове XVII – XVIII стагоддзяў пазначана, што ўжо існавала прафесія арфіста. Ф. Скарына змяшчаў на гравюрах да Біблії, якую выдаваў, выявы музыкантаў і гэтага жанру. Яны пазначаныя і ў некаторых культавых будынках (у касцёлах, цэрквах і сінагогах). У Беларускай акадэміі музыкі існуе клас арфы.



*Ірландская арфа*

*(Працяг будзе.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 12.02. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 281.
Тыраж 1050.